ЗЬМЕСТ


Стар.

*Залескі.* Справаздачна-перавыбарчая кампанія ў калгасах . . . 1

## Да другой бальшавіцкай вясны

*Сямашка.* Да новых перамог . . . 3

*В. Самцэвіч.* Падрыхтоўка ў Барысаўскім раёне . . . 5

*С. В.* Удзел краязнаўчых арганізацый у веснавой пасеўкампаніі . . . 7

*С. Герасімовіч.* Раўняцца па лепшых . . . 8

## Шырэй фронт калектывізацыі

*Бас. Румянец.* Полаччына калектывізуецца . . . 10

*Т. Ігнацёнак.* Варонаўская арцель расьце і мацнее . . . 13

*Пароцкі Е.* Аб новым прыліве ў калгасы . . . 14

## Даць устойлівыя і ўраджайныя гатункі насеньня

*А. Касьпяровіч.* Досьледы на Сьмілаўшчыне . . . 15

*Шохор.* Досьледы Згбалацкай дасьледчай гаспадаркі . . . 18

*В. Красачкін.* Культура буракоў . . . 19

*Забела.* Лепшыя сіласныя культуры . . . 22

## Здабывайце торф

*Забела.* Торф як угнаеньне . . . 25

*Вечар.* Хлопіны ці бульба . . . 27

*Міцькоў.* Аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў калгасах БССР . . . 31


---

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | № 2—СТУДЗЕНЬ—1931 | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

## СПРАВАЗДАЧНА-ПЕРАВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ Ў КАЛГАСАХ

Справаздачна-перавыбарчая кампанія ў калгасах БССР, якая праводзіцца з 15 студзеня 1931 году мае выключнае палітычнае значэньне. Гэта фактычна першая сапраўдная масавая плянавая перавыбарчая кампанія, якая ахопіць усе калгасы і ўсю калгасную масу.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія ў калгасах павінна зьявіцца баявой генэральнай масавай самаправеркай дасягненьняў калгаснага будаўніцтва, падвядзеньня вынікаў гадавой калектыўнай працы і мабілізацыі ўсёй увагі калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі вакол чарговых палітычна-гаспадарчых і культурных задач, якія стаяць перад калгасамі. Гэтая кампанія павінна быць праведзена пад знакам яшчэ больш шчыльнага сплачэньня шырокіх мас калгасьнікаў і бядняцка серадняцкіх мас вёскі вакол ленінскай камуністычнай партыі, пад выпрабаваным кіраўніцтвам якой дасягнуты вялікія посьпехі ў справе індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, разгорнутага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

Аднэй з асабліва важных і рашаючых задач справаздачна-перавыбарчай кампаніі зьяўляецца ператварэньне яе ў шырачайшую масавую кампанію за далейшае разгортваньне калектывізацыі, за вярбоўку шырокіх мас беднаты і серадлякоў у рады калгасаў, за стварэньне новых калгасаў.

Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна мабілізаваць масы на барацьбу з права-апартуністычнымі настроямі ў калгасным будаўніцтве. Неабходна павесьці рашучую барацьбу супроць спроб адмаўленьня ад арганізацыі мас для рашучай барацьбы з кулаком, недаацэнкі арганізацыі беднаты для замацаваньня калгасаў і самацёцкіх настрояў пры арганізацыі калгасаў і новага прыліву. Неабходна таксама працягваць неаслабную барацьбу супроць „левацкіх" скажэньняў у калгасным будаўніцтве, выражаючымся ў спробах падмены ленінскага прынцыпу дабраахвотнасьці голым адміністраваньнем, у ігнараваньні важнасьці прыцягненьня серадняка ў кіруючыя органы калгасу у пераманьваньні праз сельсавет арцель у камуну і г. д. У час справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў калгасах павінна быць завострана ўвага ўсёй калгаснай масы на пытаньнях падвядзеньня вынікаў гаспадарчага году і вынікаў працы ўсіх калгасьнікаў у калгаснай гаспадарцы, на рабоце па падрыхтоўцы калгасаў да веснавай сяўбы, па выкананьні заданьняў па спэцыялізацыі калгасаў, па будаўніцтве і камплектаваньні сьвінога і малочнага стада, на дзейнасьці кіруючых органаў калгасаў, на пытаньні фінансавага становішча калгасаў, мабілізацыі сродкаў і выкананьні загатовак, на разьмеркаваньні прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах і на пытаньні вызначэньня раду мераприемстваў па разгортваньні і ўскрыцьці ўсіх недахопаў унутранага распарадку калгасу.

Абмеркаваньне і вырашэньне гэтых пытаньняў павінна праходзіць пад агнём крытыкі і самакрытыкі ўсёй калгаснай масы. Справаздачна-перавыбарчая кампанія будзе праходзіць ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы і шалёнага змаганьня кулацтва з калгасным рухам. Неабходна разгарнуць шырокую масавую работу па падрыхтоўцы батрацтва і беднаты да перавыбараў, трэба ажывіць працу бядняцка-батрацкіх груп, правесьці сходы батрацтва і беднаты, на якіх абмеркаваць пытаньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі і абгаварэньні кандыдатур у кіруючыя органы калгасу. Жанчыны-калгасьніцы адыгрываюць надзвычайна вялікую ролю, як актыўныя ўдзельніцы будаўніцтва калектыўнай гаспадаркі. Таму вялікае значэньне мае іх актыўны ўдзел у гэтай кампаніі. Неабходна правесьці шырокую работу па растлумачэньні значэньня задач перавыбарчай кампаніі сярод жанчын праз дэлегацкія сходы і спэцыяльныя жаночыя сходы. Трэба забясьпечыць 100-процантны ўдзел жанчын-калгасьніц у перавыбарах, для чаго неабходна на час перавыбарчых сходаў арганізаваць дзіцячыя ясьлі, якія павінны быць організаваны ва ўсіх калгасах. Недастатковасьць удзелу комсамолу і калгаснай моладзі ў перавыбарчай кампаніі ў мінулым годзе, патрабуе каб у гэтай справаздачна-перавыбарчай кампаніі ўдзел камсамолу і ўсёй калгаснай моладзі быў забясьпечаны поўнасьцю. Для гэтага неабходна правесьці напярэдадні сходы калгаснай і сялянскай моладзі, сходы ячэек комсамолу, на якіх дэталёва абгаварыць і распрацаваць пляны практычнага ўдзелу моладзі ў перавыбарчай кампаніі. Выходзячы з раду асаблівасьцяй нацыянальных і інтэрнацыянальных калгасаў, неабходна зьвярнуць належную ўвагу на арганізацыю і падрыхтоўку ў гэтых калгасах справаздачна - перавыбарчай кампаніі, якая павінна праводзіцца пад знакам барацьбы з замкнёнасьцю нацыянальных калгасаў, барацьбы з праявамі антысэмітызму і шавінізму і за разгортваньне інтэрнацыянальнага выхаваньня і за шырокае ўцягненьне бядняцка-серадняцкіх мас нацыянальных меншасьцяй у калгасы.

Неабходна, каб на справаздачна-перавыбарчых сходах усебакова абгаварваліся ня толькі дасягненьні, якія калгасы атрымалі ў выніку сваёй гадавой работы, а і недахопы і цяжкасьці, на зьнішчэньне якіх неабходна мабілізаваць усю масу калгасьнікаў. Гэта важна і неабходна таму, што селянін-адзіналічнік (бядняк і серадняк), які зьяўляецца заўтрашнім калгасьнікам пільна сочыць за работай калгасаў, бо інтарэсы калгасаў зьяўляюцца блізкімі інтарэсам бядняцка-серадняцкай масы адзіналічнікаў. Таму неабходны актыўны ўдзел бядняцка-серадняцкай масы сялян некалгасьнікаў у справаздачна-перавыбарчай кампаніі, якія памогуць выяўленьню і зьнішчэньню недахопаў у рабоце калгасаў і сваім удзелам будуць садзейнічаць яшчэ большаму замацаваньню калгасаў.

Калгаснае будаўніцтва праходзіць у абставінах жорсткай клясавай барацьбы. Кулак дзейнічае ня толькі мэтадамі адкрытага шкодніцтва, а і ўплывам на няўстойлівыя элемэнты саміх калгасьнікаў і праз асобных кіраўнікоў калгасаў, працівапастаўленьнем інтарэсаў асобных груп калгасьнікаў інтарэсам дзяржавы. Справаздачна-перавыбарчая кампанія павінна ў першую чаргу быць накіравана на спалучэньне батрацка-бядняцкай-серадняцкай масы калгасьнікаў вакол камуністычнай партыі, на замацаваньне пролетарскага ядра ў калгасах — 25-тысячнікаў — на вылучэньне з калгаснай масы новых тысяч арганізатараў, выявіўшых сябе на рабоце лепшымі і на ўцягненьне ў кіруючыя органы калгасаў лепшых сераднякоў.

Неабходна забясьпечыць далейшае ўзмацненьне кіруючых органаў калгасаў, шляхам павялічэньня партыйна камсамольскай праслойкі, замацаваць і на далейшы час на рабоце, у складзе кіруючых органаў, калгасу тых кіраўнікоў, якія праявілі сябе як здольныя і адданыя арганізатары калектыўнай гаспадаркі. Трэба дабіцца, каб у складзе кіруючых органаў калгасу было ня менш 35 проц. жанчын.

Усю ўвагу справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў калгасах!

За ўзмацненьне і пашырэньне існуючых і арганізацыю новых калгасаў!

**А. Залескі.**

# ДА ДРУГОЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ ВЯСНЫ

**БАЛЬШАВІЦКАЙ ПАДРЫХТОЎКАЙ, УДАРНЫМ ПРАВЯДЗЕНЬНЕМ ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ РАЗАБ'ЕМ КУЛАКА, ЯКІ ІМКНЕЦЦА САРВАЦЬ КАЛГАСНАЕ БУДАЎНІЦТВА.**

## ДА НОВЫХ ПЕРАМОГ!

Другая бальшавіцкая вясна мае надзвычайна важнае палітычнае значэньне. Пасьпяхова арганізаваць падрыхтоўку да вясны, па-баявому, пераможна правесьці сяўбу—гэта значыць забясьпечыць выкананьне пляну трэцяга году пяцігодкі—рашаючага году ў справе выкананьня пяцігадовага пляну ў чатыры гады, гэта значыць забясьпечыць яшчэ больш шпаркія тэмпы індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, гэта значыць яшчэ больш узмацніць моц СССР, узмацніць абароназдольнасьць нашай краіны.

Падрыхтоўка да другой бальшавіцкай вясны неразрыўна зьвязана з барацьбой за сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі на аснове яе калектывізацыі. Другая бальшавіцкая веснавая сяўба павінна быць прыведзена на значна пашыранай калгаснай базе. Пагэтаму арганізацыі падрыхтоўкі і правядзеньню веснавой сяўбы павінна быць зьвернута выключная ўвага партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый.

Зімовы пэрыяд зьяўляецца важнейшым этапам у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Зімовы час поўнасьцю трэба скарыстаць для таго, каб вясна не застала ў расплох. Трэба рашуча змагацца з тымі, хто спадзяецца на самацёк у гэтай важнейшай кампаніі, хто разважае, што „вясна яшчэ далёка, пасьпеем". Такія разважаньні на руку клясаваму ворагу—кулаку.

Падрыхтоўку к веснавой сяўбе трэба праводзіць баявым тэмпам з тым, каб пляны, баявы пераход ад зімовай падрыхтоўкі к напружанаму, шпаркаму і пераможнаму выкананьню плянаў веснавой сяўбы ў гэтым годзе пазбавіў павярхоўнай, насьпех, падрыхтоўкі (як гэта было ў некаторых мясцох у мінулую веснавую пасеўкампанію) у час пачатку сяўбы.

Пасьпяховае правядзеньне гэтай важнейшай палітычнай кампаніі патрабуе поўнай мабілізацыі ўсіх сіл і матар'яльных рэсурсаў. Кожная калектыўная гаспадарка павінна мець канкрэтны вытворчы плян, які прадугледжваў-бы чоткую расстаноўку рабочай сілы, коняй і машын. Арганізацыя і падрыхтоўка брыгад, рамонт інвэнтару і сельска-гаспадарчых машын,—усё гэта павінна быць гатова да пачатку сяўбы, усё гэта павінна быць праароблена зімою. Поўнасьцю ссыпаць насенны матар'ял, асаблівую ўвагу зьвярнуўшы гэтай справе ў новых калгасах. Трэба праверыць і забясьпечыць поўную захаванасьць насенных фондаў ад папсаваньня і крадзяжу. Забясьпечыць захаванасьць рабочай жывёлы. Праверыць і адрамантаваць усе патрэбныя к сяўбе сельска-гаспадарчыя машыны і інвэнтар. Прывесьці ў баявую гатоўнасьць трактары.

Насенны матар'ял павінен быць адсартаваны і праверана яго якасьць з тым, наб ня кідаць у зямлю ня ўсхожае зерне.

Да гэтага часу ў нас шмат яшчэ гіне задарма хатняга попелу. У некаторых мясцох попел проста высыпаецца на вуліцу, некаторыя ў гарадох пасыпаюць ім

тратуары. Трэба зараз-жа спыніць такія адносіны к каштоўнейшаму ўгнаеньню. Зараз-жа арганізаваць збор попелу. Увесь, да граму попел павінен пайсьці на калгасныя палі.

Важнейшым зьвяном ва ўсёй падрыхтоўцы да веснавой сяўбы зьяўляецца мабілізацыя ўнутраных рэсурсаў. Мабілізацыя насеньня і грашовых сродкаў, пагашэньне ўсіх абавязацельстваў перад дзяржавай, максымальнае скарыстаньне мясцовых прадпрыемстваў па рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару і машын, рашучая барацьба супроць распрадажы жывёлы ўноў уступаючымі ў калгас,— усё гэтае павінна быць пастаўлена на службу пасьпяховай арганізацыі і правядзеньню веснавой сяўбы.

Вакол падрыхтоўкі да веснавой сяўбы трэба мабілізаваць шырокую грамадзкую думку ўсіх калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі для таго, каб „давесьці ўдзельную вагу сацыялістычнага сэктара ў пасеўных плошчах да 37 процан. супроць 17,4 проц. у мінулым годзе“ (з пастановы ЦК КП(б)Б).

Гэтая дырэктыва ЦК КП(б)Б можа быць выканана тады толькі, калі ва ўсёй практычнай рабоце будзе няўхільна праводзіцца генэральная лінія партыі, калі будзе праводзіцца рашучая барацьба з правымі апартуністымі і „левымі“ загібшчыкамі і прымірэнчымі адносінамі да іх.

„Гіганцкія посьпехі, дасягнутыя партыяй у справе індустрыялізацыі краіны і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, разгорнутае сацыялістычнае наступленьне па ўсім фронце на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, выклікаюць шалёнае супраціўленьне клясавых ворагаў. Кулацтва, ліквідуемае як кляса на базе суцэльнай калектывізацыі, напружвае ўсе свае апошнія сілы на зрыў усіх мерапрыемстваў партыі па рэконструкцыі сельскай гаспадаркі“ (з рэзалюцыі пленуму ЦК КП(б)Б).

Кулацтва ўсімі мерамі будзе імкнуцца, каб пашкодзіць пасьпяховай падрыхтоўцы і правядзеньню веснавой сяўбы, а гэтым самым і далейшаму разгортваньню калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Таму „задача партыйных, савецкіх, прафсаюзных і камсамольскіх арганізацый павінна заключацца ў тым, каб мабілізаваць на барацьбу з кулацтвам і яго агэнтамі ўсю ўвагу калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Апіраючыся на ўзрастаючую актыўнасьць калгасьнікаў і батрацка-бядняцкіх мас вёскі, узмацняючы саюз з серадняком, рашуча і няўхільна ажыцьцяўляючы лінію партыі на правядзеньне суцэльнай калектывізацыі, партыйныя арганізацыі павінны зламаць супраціўленьне кулацтва і ажыцьцявіць важнейшы лёзунг партыі аб яго ліквідацыі, як клясы“ (з рэзалюцыі пленуму ЦК КП(б)Б).

Праграма бальшавіцкіх работ, якая намечана на вясну гэтага году павінна быць і будзе выканана.

С. Сямашка.

### Рыхтуйцеся к вясне



У калгасе ссыпаюць насенны матар'ял.

# Падрыхтоўка ў Барысаўскім раёне

Сваячасовая падрыхтоўка і правядзеньне бальшавіцкімі тэмпамі веснавой сяўбы ў 1931 г. мае надзвычайна вялікае гаспадарча-палітычнае значэньне. Належнае правядзеньне гэтае асноўнае с.-г. кампаніі рашаючага трэцяга году пяцігодкі павінна забясьпечыць нам далейшае разгортвае сацыялістычнае наступленьне на фронце сельскае гаспадаркі. Асноўным стрыжнявым пытаньнем веснавой сяўбы ў нас павінна быць арганізацыя новых саўгасаў, МТС і калгасаў і ўцягненьне ў іх (калгасы) новых батракоў, беднякоў і сераднякоў.

Застановімся ў кароткіх рысах на канкрэтнай працы па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, праведзенай у Барысаўскім раёне (да 15/XII).

У раёне сярод калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі праведзена досыць значная папулярызацыйная праца аб выніках калектыўнае працы і разьмеркаваньня ўраджаю, што выклікала досыць значны прыліў у калгасы аднаасобнікаў. Так, з 1/X у раёне арганізавалася 13 новых калгасаў, у якія ўвайшло 318 гаспадарак. Калгасны рух, бязумоўна, у далейшым яшчэ больш павялічыцца, калі будзе добра пастаўлена праца па паказу выгады калектыўнага вядзеньня гаспадаркі. У некаторых сельсаветах, дзе калгасы змаглі добра арганізаваць працу і дзе партячэйкі і калгасы вялі сыстэматычную працу сярод бядняцка-серадняцкай масы, калгасны рух пашыраецца асабліва пасьпяхова (Лозінскі, Глівенскі і Метчанскі с.-с.). Лозінскі нацыянальны (польскі) сельсавет к вясьне стаў першым сельсаветам суцэльнай калектывізацыі ў раёне.

У даны момант у раёне маецца 62 калгасы з плошчай 12 тыс. *га*; у калгасах налічваецца 14 проц. усіх гаспадарак у раёне.

У 1930 г. калгасы ў раёне ня мелі стала вызначанай спэцыялізацыі. Цяпер кожнаму калгасу даецца пэўная спэцыялізацыя.

У асноўным-жа ўвесь раён мае малочна-жывёлагадоўчы ўхіл. Ва ўсіх прыгарадных сельсаветах (радыусам 15-20 *км*) па пляну будуць разьвівацца гароднамалочныя гаспадаркі (калгасы), у больш далёкіх сельсаветах будуць арганізоўвацца сьвінаводчыя калгасы. У трох сельсаветах (вакол крухмальнага заводу ў калгасе „Весялова“) будзе праводзіцца спэцыялізацыя па вырашчваньню бульбы для заводу.



Аграномы бяруць з складу авёс для апрадзяленьня ўсхожасьці.

Значна павялічваецца роля саўгасаў. Каля г. Барысава ўзбуйняецца фэрма ЦРК; плошча гэтай фэрмы пад гародамі павялічваецца да 350 *га*.

Вызначэньне пэўнай спэцыялізацыі раёну ў цэлым і паасобных сельсаветаў, калгасаў і саўгасаў зусім мяняе на 1931 г. суадносіны ў пропорцыі культур. У пляне прадбачана падвядзеньне пад жывёлагадоўлю цьвёрдай кармавой базы. Так,

плошча пад кармовымі культурамі ў яравым кліне ў 1931 г. у параўнаньні з 1930 г. павінна павялічыцца з 24,5 проц. да 43 проц., засеў бульбы павялічваецца ў два разы (да 10 тыс. *га*) затое значна паменшыцца плошча пад збожжавымі культурамі.

У сувязі з значным павялічэньнем засеву карэньплодаў, кармовых траў і лубіну перад усімі калгасамі і райкалгассаюзам стаіць задача высьвятліць усе запасы насеньня гэтых культур у раёне і сваячасова прыняць захады, каб патрэбная колькасьць насеньня была дастаўлена з іншых раёнаў.

У мэтах павялічэньня ўраджайнасьці вялікае значэньне маюць: апрацоўка глебы (зяблевае ворыва), правільнае угнаеньне, ачыстка насеньня, засеў гатунковым насеньнем і інш. Заданьне па зяблеваму ворыву выканана толькі паасобнымі калгасамі (калгас імя „Домбаля"), большасьцю-ж калгасаў заданьне выканана менш як на 50 проц. Пытаньне аб забясьпечаньні калгасаў штучным угнаеньнем яшчэ канчаткова ня высьветлена, але частка ўгнаеньняў ужо ёсьць на складах райкаапсаюзу. Для скарыстаньня попелу з фабрык і заводаў усе калгасы будуць прымацаваны да пэўных прадпрыемстваў. Масавая ачыстка насеньня яшчэ не распачалася; у некаторых калгасах толькі заканчваецца малацьба. Яшчэ ня поўнасьцю праведзена райземаддзелам вывучэньне найлепшых па мясцовых умовах гатункаў насеньня паказвае, што ў большасьці калгасаў найлепшыя ўраджаі даюць: авёс „залаты дождж" (і толькі ў некаторых „Пабеда"), бульба „Вольтман" (да 145-150 цэнтн.).

Ва ўсіх калгасах ствараюцца насенныя і страхавыя фонды; значна горш гэта справа ідзе ў КСУ.

Земаддзелам складзены пляны пасеўнай кампаніі: па сельсаветах і па асобных калгасах. Калгасы на сваіх нарадах павінны будуць абгаварыць складзеныя пляны, унесьці ў іх свае папраўкі, дадаткі, выказаць свае меркаваньні.

Пытаньне аб падрыхтоўцы і правядзеньні пасеўнай кампаніі ставілася на спэцыяльнай нарадзе ўсіх аграномаў раёну (11/XII) і на нарадзе старшынь калгасаў (13/XII). Пытаньне гэта (аб падрыхтоўцы да сяўбы) узьнята і на старонках мясцовай шматтыражнай газэты „Бальшавік Барысаўшчыны" (№ 3 ад 3/XII). Зразумела, што пытаньню гэтаму на старонках раённай газэты трэба ўдзяліць вялікую ўвагу.

Надзвычайна вялікае значэньне мае арганізацыя працы і падрыхтоўка кадраў У мэтах падрыхтоўкі да лепшай арганізацыі працы і ўсіх галін гаспадаркі, што забясьпечыць і павялічэньне прадукцыйнасьці калгасаў, а таксама і прыліў у калгасы беднякоў і сераднякоў вёскі. Райкалгассаюз і РВК у Барысаве арганізуюць падрыхтоўчыя курсы для старшынь калгасаў, новых рахункаводаў, для падрыхтоўкі паляводаў, жывёлаводаў і інш.

Для атрыманьня найлепшых вынікаў у правядзеньні пасеўнай кампаніі неабходна яшчэ папулярызаваць сярод усіх калгасьнікаў сацыялістычныя мэтады працы— ударніцтва, сацспаборніцтва. Трэба дабіцца, каб у сацспаборніцтве на лепшае правядзеньне другой бальшавіцкай сяўбы ўступілі як паасобныя брыгады ўнутры саміх калгасаў, так і паасобныя калгасы паміж сабой.

У пэрыяд падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі ва ўсіх калгасах, саўгасах і вёсках павінна быць разгорнута самая шырокая палітыка-асьветная праца, якая б была цесна ўвязана з тымі задачамі, якія стаяць перад гэтай кампаніяй.

В. Самцэвіч.

**Вылучым у праўленьні калгасаў лепшых калгасьнікаў-камуністаў, камсамольцаў, „25-тысячнікаў", ударнікаў з батракоў, беднякоў і сераднякоў.**

# Удзел краязнаўчых арганізацый у веснавой пасеўкампаніі

Веснавая пасеўная кампанія ў гэтым годзе павінна быць цесна зьвязана з максымальным разгортваньнем колгаснага руху, з узмацненьнем і пашырэньнем існуючых колгасаў і найлепшай арганізацыяй працы ў социялістычным сэктары сельскай гаспадаркі (саўгасах і калгасах). У плянах веснавой пасеўнай кампаніі павінны быць прадбачаны максымальнае пашырэньне пасеўных плошчаў, засеў палёў гатунковым насеньнем, замацаваньне спэцыялізацыі за кожным калгасам, саўгасам, фэрмай, і ў сувязі з гэтым пераразьмеркаваньне ўстаноўленай прапорцыі культур.

У правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі (разам з адпаведнымі гаспадарчымі і плянуючымі арганізацыямі) вялікі ўдзел павінны прыняць усе дасьледчыя ўстановы і арганізацыі (у галіне сельскай гаспадаркі) і ў тым ліку ўсе краязнаўчыя арганізацыі. Асабліва вялікую дапамогу краязнаўчыя арганізацыі могуць аказаць калгасам, якія толькі нядаўна арганізаваліся, альбо знаходзяцца ў працэсе арганізацыі.

Краязнаўчыя арганізацыі, якія займаліся і займаюцца вывучэньнем прыродных вытворчых сіл і экономікі свайго раёну, могуць значна дапамагчы сельсаветам і калгасам у выяўленьні незанятых яшчэ плошчаў, якія можна будзе скарыстаць пад тыя або іншыя культуры (у залежнасьці ад спэцыялізацыі гаспадаркі і ўласьцівасьцяй глебы), у вывучэньні найбольш прыгодных для данай мясцовасьці гатункаў розных культур, відаў угнаеньня і спосабаў іх ужываньня. Вялікі ўдзел павінны прыняць краязнаўчыя арганізацыі ў вызначэньні пэўнай спэцыялізацыі паасобных калгасаў у залежнасьці ад агульнай спэцыялізацыі данага раёну. Так, напрыклад, пры агульным малочна-жывёлагадоўчым ухіле сельскай гаспадаркі Барысаўскага раёну, адны саўгасы і калгасы могуць мець малочна-гародную спэцыялізацыю, другія—сьвінагадоўчую, трэція сьвінаводна-жывёлагадоўчую і інш. Для некаторых калгасаў пытаньне пэўнай спэцыялізацыі яшчэ ня вырашана, яно застаецца ня вывучаным.

У справе ўсебаковага абсьледваньня і сталага абгрунтаваньня неабходнасьці той ці іншай спэцыялізацыі калгасаў мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі павінны прыняць самы чынны ўдзел. Належную ўвагу краязнаўчыя арганізацыі павінны зьвярнуць на пытаньне правядзеньня моцнай кармавой базы для жывёлаводных гаспадарак, паколькі ў сучасны момант гэта пытаньне зьяўляецца адным з самых сур'ёзных пытаньняў у нашых умовах, якое да гэтага часу застаецца яшчэ ня вырашаным. Сумесная праца ўсіх калгасьнікаў, аграномаў і краязнаўчых арганізацый можа даць належныя і канкрэтныя вынікі ў самым хуткім часе.

Стварэньне насенных фондаў, пасьпяховае правядзеньне ачысткі насеннага матар'ялу і г. д., патрабуюць папярэдняга вывучэньня падліку ўсіх рэальных мясцовых магчымасьцяй. І тут краязнаўчыя арганізацыі могуць аказаць сваю дапамогу сельсаветам і калгасам.

Другую бальшавіцкую вясну мы павінны правесьці больш арганізавана, чым была праведзена першая вясна. Трэба ўлічыць усе дадатныя і адмоўныя бакі, якія мелі месца ў мінулую вясну, трэба загадзя правесьці належную падрыхтоўку, прадумаць усю сыстэму расстаноўк машын і людзей, скарыстаньня с-г. інвэнтару і рабочага часу, каб ні адна хвіліна не прапала дарам. У кожным калгасе і саўгасе, у кожным сельсавеце, на аснове лепшага вопыту ў мінулую вясну, павінны быць сваячасова складзены канкрэтныя пляны веснавой сяўбы з вызначэньнем месца і часу працы кожнай машыны, кожнага калгасьніка і рабочага саўгасу.

У складаньні і абгаварэньні гэтых плянаў павінны прыняць удзел усе спэцыялістыя, кіраўнікі, ударнікі, прадстаў-

нікі мясцовых дасьледчых устаноў і арганізацый і ўсе калгасьнікі і рабочыя саўгасаў. Пляны веснавой сяўбы калгасаў трэба папулярызаваць і сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, што зьявіцца стымулем для ўступленьня ў калгасы адзінаасобнікаў (бядняцка-серадняцкіх гаспадарак).

Зусім зразумела, што ўдзел краязнаўчых арганізацый павінен адпаведным чынам выявіцца і ў дапамозе сельсаветам па-бальшавіцку правесьці веснавую сяўбу і ў індывідуальным сэктары, падрыхтоўваючы бядняцка-серадняцкія гаспадаркі да арганізацыі іх у прасьцейшыя вытворчыя аб'яднаньні, як пераходнай ступені да с.-г. арцелі, альбо непасрэднага ўваходу ў калгасы.

Масавы прыліў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгас—адна з найгалоўнейшых задач падрыхтоўчай працы да правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі. Краязнаўчыя арганізацыі павінны вывучыць найлепшыя мэтады ўцягненьня адзінаасобнікаў у калгасы і скарыстаць іх (мэтады) поўнасьцю ў сваёй непасрэднай працы ў час падрыхтоўкі да пасеўнай кампаніі.

Мы вызначылі толькі некаторыя моманты правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі, у вырашэньні якіх актыўны ўдзел павінны прыняць краязнаўчыя арганізацыі. Непасрэдная праца на месцы яшчэ ў большай меры пакажа, дзе і якім чынам краязнаўчыя арганізацыі могуць дапамагчы мясцовым партыйным і савецкім арганізацыям у правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі.

Сацыялістычныя мэтады працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва, — павінны забясьпечыць бальшавіцкія тэмпы і посьпехі як падрыхтоўчай працы, так і самага правядзеньня веснавога севу.

С. В.

# Раўняцца па лепшым!

Правільнае і рэнтабельнае выкарыстаньне сродкаў мэханізацыі сельскай гаспадаркі, асабліва мэханічнай цягавай сілы, у прыватнасьці трактара, павінна быць ударным абавязкам трактарыстага. кіданасьці трактароў затрудняла своечасовае абслугоўваньне апошніх і падзеньне труддысцыпліны часткі абслугоўваючага пэрсаналу,—трактарыстых-каляноважатых-мэханікаў, у выніку чаго зда



Ударнікі-трактарыстыя: тт. Бабарэка, Шрэйтар, Міронаў, Духвалаў, Катляроў, Хаткевіч.

Трактаравыкарыстаньне ў БССР дало надзвычайныя посьпехі сваіх работ і паказала найлепшыя вынікі эканамічнага ўздыму сельскай гаспадаркі ў параўнаньні з мінулымі гадамі.

Трэба адзначыць, што дзякуючы расраліся частыя паломкі аварыйнага характару, разбазарваньне і звышнармальнае выдаткаваньне нафтапрадуктаў, частыя прастоі і халастыя перагоны. Нават мела месца, ня гледзячы на дырэктывы і інструкцыі, размарожаньне ахладжаючай

сыстэмы трактароў (размарожана 2 гусянічных трактары м. „Манарх“ 40/55 НР і 1 „Фордзон“ у Касьцюковіцкім раёне. Адсюль ударажэньне адзінкі трактарнай абработкі. У некаторых трактарных гаспадарках сабекаштоўнасьць 1 *га* ўспашкі мінэральнай глебы дасягала да 12-15 р. У той час, калі шэраг гаспадарак і калён зьніжалі да 6-8 руб. Але большасьць трактарыстых трактарнага парку калгассыстэмы паказвалі ўдарныя тэмпы работ.

Калгасцэнтрам БССР 15 сьнежня г. г. прэміраваны ручнымі гадзіньнікамі 10 лепшых трактарыстых, за найбольшую вытворчасьць пры найменшым выдаткаваньні гаручага, добрым захоўваньні трактароў і прычэпнага інвэнтару, адсутнасьць буйных паломак пры значным тэрміне работы (2-3 гады), давёўшы зьніжэньне сабекошту 1 *га* ўспашкі да 6-7 руб.

Прэміі атрымалі: т. т. *Вейс*, Густаў Андрэяў—сябра калгасу „Дняпроўская камуна“ Лоеўскага раёну; *Духвалаў*, Даніла Ціханаў—сябр калгасу імя „Дзяржынскага“ Будакашалеўскага р-ну; *Міронаў* Хвядос—сябра камуны імя „Карла Лібкнэхта“ Быхаўскага р-ну; *Катляроў*, Пётра Раманаў,—трактарнай калёны Рагачоўскага агра-камбінату; *Якушоў*, Сяргей Захараў—сябра калгасу „Бальшавік Беларусі“ Клімавіцкага р-ну; *Агароднікаў* Васіль трактарнай калёны Магілеўск. р-ну; *Шашкоў* Алесь—трактарнай калёны Касьцюковіцкага р-ну; *Хаткевіч*, Раман Антонаў—сябра камуны імя „Леніна“ Дрысенскага р-ну; *Шрэйтар*, Карл Карлаў—Тонежыцкай МТС Чырвона-Слабодзкага раёну; *Бабарэка*, Міхась Паўлаў,—Чапялеўскай трактарнай калёны Старобінскага раёну.

Таварышы трактарысты! Бярэце прыклад з памянёных таварышоў.

Больш ударніцтва, сацспаборніцтва ў рабоце трактарнага парку! Памятайце, што вы зьяўляецеся адными з удзельнікаў перабудовы вёскі на сацыялістычны лад.

*Задача сёньнешняга дню: падрыхтоўка рычагоў мэханізацыі да веснавой сяўбы. Ні аднаго трактара—машыны—інвэнтару бяз догляду!*

С. Герасімовіч.



Калгасьнікі атрымоўваюць аблігацыі пазыкі пяцігодкі і тут-жа робяць дадатковую падпіску. (Калгас імя 12 гадавіны кастрычніка).

# Шырэй фронт калектывізацыі

„ДА КАНЦА ПЯЦІГОДКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СССР У АСНОЎНЫМ ПАВІННА БЫЦЬ СКОНЧАНА"

(Сталін).

## Полаччына калектывізуецца

Бядняцка-серадняцкая частка вёскі ўбачыла і ўпэўнілася, што менавіта калгасы зьяўляюцца выхадам з вечнай бядоты і жабрацтва.

Кулацкія сплёткі і паклёпы на калектывізацыю разьбіліся, сустрэўшы канкрэтныя лічбы і факты дасягненьняў калгаснага будаўніцтва. Не жадаўшыя раней і слухаць пра калектыўнае жыцьцё, падпаўшыя пад кулацкі ўплыў маламоцныя серад填. серадняки, цяпер падаюць заявы ў калгас, арганізоўваюць ініцыятыўныя групы па калектывізацыі, самі зьяўляюцца ініцыятарамі калгаснага прыліву.

У сучасны момант Полаччына пасьпяхова ідзе па шляху да суцэльнай калектывізацыі ўсяго раёну.

### Па калгасах Полаччыны

Гаворачы пра сучасны калгасны рух на Полаччыне нельга не застанавіцца на лепшых калгасах, якімі можа ганарыцца ўвесь раён і якія прызначаны на атрыманьне прэмій за правадзімую работу.

Камуна „Чырвоная Зорка" на плошчы 100 гектараў пашырылася да 800 гектараў, атрымаўшы жывёлагадоўчы ўхіл. Па ўсім правадзімым гаспадарча-палітычным кампаніям камуна ідзе першай па раёну. Асабліва зварачваецца ўвага на разьвіцьцё жывёлагадоўлі. З гэтай мэтай пабудаваны сёлета скотны двор на 200 галоў, сьвінарнік на 50 галоў і іншыя будынкі для жывёлы. Засіласавана зялёнага корму 40 тысяч пудоў. Вынікам добра пастаўленай работы па жывёлагадоўлі зьявілася тое, што камуна замест закантрактаваных 7 сьвіней датэрмінова здала 25 штук.

Зьдзіўленьне адзінаасобнікаў выклікала выкананьне камунай хлебазагатоўчага пляну на 300 працантаў. І наогул камуна па сваёй арганізаванасьці і прыкладнасьці работы паказала ўзор калектыўнага жыцьця. Восеньню пасаджана 100 *га* саду, перавыканан плян асеньняй сяўбы, поўнасьцю праведзена зяблевае ворыва. Камунары не замкнуліся ў вузкім коле сваіх шэрагаў. Яны панесьлі свой вопыт на сялянскія сходы, ставячы справаздачы перад адзінаасобнікамі. У выніку арганізаваны новы калгас імя 1-га раённага зьезду калгасьнікаў.

Прыкладам узорнага калгасу можа служыць і камуна „Чырвоны Артылерыст". Арганізавалася яна з 12 дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, якія ня мелі як гаварыцца, ні кала, ні двара, і налічвае цяпер 326 чалавек членаў камуны. У час асеньняй сяўбы камуна замест вызначаных 53 гектараў засеяла 142 гектары азімага жыта. Камунары абвясьцілі сябе ўдарнікамі і з гонарам апраўдваюць гэтую назву. За ўвесь час мінулагодняй уборкі і сяўбы ня было ніводнага прагулу. Пад зяб камунарамі ўзьнята 140 *га*. Хлебазагатоўчае заданьне перавышана ў 3 разы.

У камуне шырока разгортваецца будаўніцтва. Пабудавана за лета 2 жылых дамы, скотны двор на 200 галоў, амбар на 200 тон і сілосная вежа на 1000 тон, якая ўжо засіласавана. Ініцыятары камуны—чырвонаармейцы прынесьлі з са-

бой сапраўды чырвонаармейскую дысцыплінаванасьць, баявы задор і энтузіязм. Не дарма-ж валавы прыбытак камуны за год раўняецца 56602 р. 70 кап.

Ня так далёка ад гэтае камуны знаходзіцца колгас „Верны Шлях“, які лічыцца калгасам, арганізаваным выключна з батрацка-бядняцкіх гаспадарак. Ня гледзячы на недастатковую колькасьць сваёй рабочай сілы, уборачная і пасеўная кампанія выкананы сваячасова без дапамогі з боку.

У калгасе існуе сьвядомая дысцыпліна і вельмі добрыя адносіны да калгаснай маемасьці. Калі маецца шмат работ, дык калгасьнікі ня лічацца ні з лішнімі гадзінамі, ні з выхаднымі днямі. Самі калгасьнікі прыкладна разьмеркавалі сваю працу і потым свае дасягненьні вынесьлі на справаздачныя сходы перад адзінаасобнікамі. Як вынік гэтага, адчуваецца шпаркі рост калгасных шэрагаў.

Да такога-ж калгасу, створанага з батракоў і беднаты належыць і калгас „Чырвоны Шлях“. І тут не хапала рабочай сілы, але дзякуючы энтузіязму і зацікаўленасьці калгасьнікаў удалося справіцца з правядзеньнем усіх кампаній. Замест вызначаных плянам 27 гект. засеяна азімінай 31 *га*. Хлеба і бульба загатоўкі перавыкананы ў два разы. Высокая працдысцыпліна, вельмі ўважлівыя адносіны да сваіх абавязкаў пазбавілі работу калгасу ад усялякіх недарэчнасьцяй і памылак. Уся работа пастаўлена на ўдарныя рэйкі.

У сучасны момант пры калгасе створана ініцыятыўная ўдарная група, якая праводзіць справаздачы перад адзінаасобнікамі і арганізоўвае калгасны прыліў.

Гэты калгас зьяўляецца ўзорным па будаўніцтву калектыўнага супольнага жыцьця і фактычна зьяўляецца наглядным агітатарам за далейшы калгасны рух. Наколькі калгасы маюць перавагу над адзінаасобнікамі, сьведчыць хоць-бы сабе той факт, што сярэдні гадавы прыбытак па Полацкаму раёну на аднаго калгасьніка раўняецца 700 рубл. Правадзімыя гаспадарча-палітычныя кампаніі большасьцю калгасаў выконваюцца сапраўды па-бальшавіцку.

Гэта ўсё адзначалі калгасьнікі на сваёй першай раённай канфэрэнцыі, якая адбылася ня так даўно на Полаччыне. Канфэрэнцыя падагуліла калгасны вопыт і вызначыла канкрэтныя мерапрыемствы для далейшага замацаваньня і пашырэньня сваіх дасягненьняў.

### Арганізоўваем новы калгасны прыліў.

Посьпехі раней арганізаваных калгасаў зьявіліся грунтам для арганізацыі новай хвалі калгаснага прыліву. Акрамя гэтага самі калгасьнікі пад кіраўніцтвам раённых і мясцовых партыйных арганізацый узяліся за справу далейшага разгортваньня калектывізацыі шляхам правядзеньня справаздач калгасаў перад адзінаасобнікамі, і шляхам стварэньня ініцыятыўных груп.

У сьнежні месяцы па Полацкаму раёну было арганізавана звыш 40 ініцыятыўных груп з калгасьнікаў і беднякоў адзінаасобнікаў. Гэтыя ініцыятыўныя групы за даволі кароткі тэрмін уцягнулі больш 200 адзінаасобных гаспадарак у калгасы. Асабліва прыкладнымі ініцыятыўнымі групамі зьяўляюцца групы пры калгасах „Чырвоная Паляна“, „Новае Жыцьё



Выпушчаныя трактары Сталінградзкім заводам

цё", „Былы Хутаранін", „Чырвоная Беларусь", „Чырвоны Артылерыст" і „Бальшавік", якія за 15 дзён уцягнулі 70 новых калгасьнікаў.

Па Полацкаму раёну арганізавалася за якіх небудзь 5 дзён шэсьць новых калгасаў, якія ахапілі сабой каля 120 адзінаасобных бядняцка серадняцкіх гаспадарак. Калгасы аформлены і разгарнулі ўжо работу, прыняўшы статут сельскагаспадарчай арцелі.

Часта пасьля справаздач калгасаў на сходах адзінаасобнікаў самі-ж адзінаасобнікі па сваёй ініцыятыве арганізоўваюць калгас. Так, сяляне вёскі Верхачэньне арганізавалі калгас пад назвай „Чырвоны Партызан", у які адразу-ж на сходзе ўступіла 28 адзінаасобных гаспадарак. Сяляне вёскі Баркі і Шахновічы аб'ядналіся ў калгас „Чырвоны Сьцяг". Сяляне-ж вёскі Зюзіна арганізавалі калгас пад назваю „Ударнік", выносячы пратэст супроць інтэрвэнтаў, шкоднікаў і контррэволюцыйных беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

Пры правядзеньні калектывізацыі шырока ўжываецца мэтад сацыялістычнага спаборніцтва паміж ініцыятыўнымі групамі і асобнымі вёскамі. Напрыклад, бедпякі і серадпякі вёскі Рудні ў кольнасьці 15 асоб уступілі ў калгас і выклікалі на спаборніцтва па перабудове вёскі на сацыялістычны лад усе акаляючыя вёскі.

У справе арганізацыі новай хвалі калгаснага прыліву надзвычайна вялікую ролю адыгрывае вясковая партыйная і камсамольскія арганізацыі. Шэраг фактаў гаворыць за тое, што партыйцы і камсамольцы сапраўды зьяўляюцца застрэльшчыкамі калектывізацыі на вёсцы. Прыкладна, ячэйка камсамолу пры калгасе імя Сталіна правяла 12 сялянскіх сходаў, дзе ставіла справаздачу калгасу перад адзінаасобнікамі. Як вынік гэтага, у калгас уцягнута 20 новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Камсамольцы пры калгасе імя Кастрычніка ўцягнулі 15 новых калгасьнікаў, праводзячы сялянскія сходы; асобныя гутаркі і інш.

Работа па арганізацыі новага калгаснага прыліву дала значныя вынікі. Калі на 25-га кастрычніка па Полацкаму раёну лічылася ўсяго 37 калгасаў, дык зараз лік калгасаў дасягнуў 53 з ахопам зямельнай плошчы на 25 проц. Прыліў прыняў шырокі масавы характар. У існуючых ужо калгасах за якіх-небудзь два месяцы ўвайшло 560 гаспадарак. Гэта ўжо само сабой азначае, што ня толькі бядняцкія, але і серадняцкія пласты вёскі глыбока ўзварушыліся і зразумелі сутнасьць сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Варта толькі зьнішчыць тыя рагаткі праваапартуністычнага характару, якія яшчэ сустракаюцца на шляху далейшага калгаснага руху. У Салоніцкім сельсавеце, напрыклад, сяляне вёскі Гаравыя самі стварылі калгас і хадайнічалі перад сельсаветам аб садзейнічаньні ў адводзе зямлі, тым часам сельсавет не зьвярнуў на гэта ўвагі і не дапамог калгасу. Салоніцкі сельсавет старога складу наогул адзначаўся ў галіне калгаснага руху стаўкай на самацёк.

Амаль тое-ж становішча да апошніх часоў існавала ў Арлейскім сельсавеце, дзе сельсаветчыкі праз праваапартуністычныя акуляры глядзелі на калектывізацыю, аказваючы ўсялякую палёгку кулацкім гаспадаркам. Гэтыя факты, безумоўна патрабуюць самых суровых мер па адносіне да працаўнікоў, якія ажыцьцяўляюць праваапартуністычную практыку.

Да недахопаў трэба аднесьці таксама адсутнічаньне вучоту ў самым райкалгассаюзе, які занадта непаваротлівы і ня можа ў належнай ступені стаяць на чале калгаснага руху і арганізаваць яго.

Полацкі раён калектывізуецца, пад кіраўніцтвам партарганізацыі ідзе па шляху карэннай сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Не дарма-ж удзельнікі першай раённай канфэрэнцыі калгасьнікаў абвясьцілі сябе ўдарнікамі па калгаснаму будаўніцтву. Гэтае абвяшчэньне ажыцьцяўляецца на справе.

**Баз. Румянец.**

# Вараноўская арцель расьце і мацнее

(*Касьцюковіцкі раён*).

У Вяліка-Борскім сельсавеце ў вёсцы Вараноўцы арганізавалася новая арцель. Спачатку ў яе ўлілося 22 гаспадаркі, а зараз яна мае 37 гаспадарак.

З першых дзён арцель перажывала некаторыя цяжкасьці як у справе арганізацыйнай, так і ў другіх галінах. Але на сёняшні дзен арцель мае ўжо некаторыя посьпехі, гэта дзякуючы таму, што ў яе ўліліся галоўным чынам бядняцкія і лепшая частка серадняцкіх гаспадарак.

Паглядзім як-жа арцель узялася за выкананьне тых работ, якія перад ёю стаялі? Толькі былі зроблены ўсе арганізацыйныя справы, як праз два дні надыйшла пільная работа—жніво і сенакос. Арцель хутка запрасіла з раёну зямляўпарадкаваццеля, адрэзалі частку сенажацяй ад індывідуальных гаспадарак і жвава ўзяліся за ўборку сена. Усё сена складалі агульна ў сенавалы ўліўшыхся гаспадарак. Пры ўборцы калгасьнікі былі запалены вялікім энтузіязмам: яны парашылі, каб ні аднэй пасмы сена не дапусьціць у негаспадарчае становішча. У іх быў лёзунг—„усё сена вырваць з-пад лап бязьлітаснага дажджу“. Гэты лёзунг яны выканалі.

Таксама калгасьнікі па баявому прыбралі жыта з сваіх вузкіх шнурочкаў.

З гэтага відаць, што хаця арцель і арганізавалася за тры дні да ўборкі, але яна не зрабіла ані якіх прарываў у сваёй агульнай гаспадарцы. Адзінаасобныя гаспадаркі потым зайдросьцілі новым калгасьнікам і іх рабоце.

Але задумаліся калгасьнікі аб тым, што пад пасеў азіміны зусім мала пасеўнай плошчы, а мэта была яе пашырыць.

— „Не бяда, хлопцы, пашырым свой агульны клін пад азіміну“,—гаварыў адзін з калгасьнікаў.

— Дык трэба-ж як-небудзь пашырыць!!!—гаварылі другія.

На полі закіпела праца маладых калгасьнікаў. Маладыя хлопцы запрогшы некалькі пар коняй сьцягвалі завялы бульбоўнік у кучы і валілі на двары. Дзяўчыны і бабы зьбіралі з-пад бараны бульбу. Потым за два-тры дні ўсё гэтае бульбяное поле было засеяна калгасным жытам.

І люба глядзець на шырокі, вакол роўны пляц зямлі. За тры дні зьнішчыліся на гэтым пляцы ўсе тыя заімшэлыя межы, якія вякамі захоўвалі шкоднікаў розных культур.

Такім чынам арцель засеяла бульбяное поле, па якім-бы ў наступны год пасьвіліся-б авечкі і сьвіньні выкапваючы вялізарныя ямы-магілы.

У арцелі ўвесь рабочы інвэнтар і рабочая жывёла абагулена. Пакуль што ёсьць толькі конныя хлявы, дзе знаходзяцца па некалькі коняй. Але калгасьнікі задаліся мэтай, каб зараз-жа кожнаму каню адбудаваць асобны станок і гэта праца хутка заканчваецца.

З кожным днём арцель імкнецца да таго, каб набыць што-небудзь новае ў сваю агульную гаспадарку. І гэта відаць на прыкладзе. Арцель за свае агульныя сродкі набыла воўна-часалку, якая ў сярэднім у дзень выпрацоўвае 7 руб. Воўна-часалка набыта ня так даўно, ня больш, як два месяцы і за гэты час яна выпрацавала 500 руб.; што дае магчымасьць палепшыць матар'яльнае становішча агульнае гаспадаркі.

Кожны калгасьнік стаў сапраўдным барацьбітом за новае жыцьцё. І калі цяпер стаць гаварыць з любым сябрам гэтае арцелі, дык можна заўважыць, што за такі кароткі час кожны з іх перамяніўся ва ўсіх адносінах. Яны па-баявому ўзяліся пашыраць і паглыбляць свае веды. Гэта відаць з таго, што кожны калгасьнік зараз выпісвае якую-небудзь газэту.

Т. Ігнацёнак.

## Ня менш 35 процантаў калгасьніц у выбарчых органах калгасаў.

# Аб новым прыліве ў калгасы

*(Брагінскі раён)*

На працягу ўсяго летняга часу мінулага году раённыя арганізацыі, у тым ліку і Райкалгассаюз чакалі самацёку ў калгасы і нават не скарысталі ні першую бальшавіцкую вясну, якую з посьпехам правадзілі калгасы, ні ўборачную кампанію для стварэньня новага прыліву ў калгасы. Затое кулацтва не драмала, а агітавала супроць калгасаў і месцамі дзе-ні-дзе яму ўдавалася няўстойлівыя элемэнты перацягнуць на свой бок. Былі асобныя выхады з калгасаў, а месцамі папоўская і кулацкая агітацыя старалася разбурыць калгасы (Грушнае, Макрэц).

З верасьня м-ца гэту справу зварушылі з мёртвага пункту і ўжо ў верасьні быў прыліў у колгасы на 25 гаспадарак. І гэта толькі пасьля таго, калі Райкомам КП(б)Б былі асуджаны апартуністычныя настроі на самацёк і па-бальшавіцкаму ўзяліся за справу і, калі па агульных сходах калгасьнікаў і адзінаасобнікаў правялі растлумачальную працу аб парадку разьмеркаваньня ўраджаю і асабліва ў тых калгасах, дзе ўборачная і асеньняя кампаніі праведзены былі па-бальшавіцку своечасова і разьмеркаваньне зроблена правільна,—у тых калгасах ёсьць значны прыліў і ў тых сельсаветах арганізаваліся новыя калгасы.

За кастрычнік арганізавана 12 калгасаў з 167 гаспадарак і ўлілося ў існаваўшыя калгасы 122 гаспадаркі. Лістапад даў 1 калгас з 25 гаспадарак і ўлілося ў калгасы 13 гаспадарак. За асеньні час улілося ў нова - арганізаваныя калгасы 362 гаспадаркі, альбо 12 проц. павялічэньня. Так на 1-IX было 43 калгасы з 1.598 гаспадарак, а на 1-XII—56 калгасаў з 1.960 гаспадарак. У авангардзе ідзе калгас „Ільліч", які з посьпехам справіўся з асеньняй сельскагаспадарчай кампаніяй.

Дзякуючы выразнай арганізацыі працы, усе палявыя работы зьвязаныя з асеньнім пэрыодам у калгасе былі своечасова выкананы, у калгасе „Ільліч". Разгортваючы сацыялістычнае спаборніцтва, калгасьнікі паказалі высокія тэмпы работы. Так, брыгада калгасьнікаў, працаваўшая па ўборцы ільну, па апрацоўцы ільну на валакно, павысілі прадукцыйнасьць працы на 100 проц.

У час сьвяткаваньня XIII гадавіны Кастрычніка — калгас наладзіў урачысты сход, на які запрасіў суседніх адзінаасобнікаў. На сходзе калгасьнікі знаёмілі адзінаасобнікаў з вынікамі калектыўнай працы і парадкам разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў. Факты і лічбы, з якімі выступалі калгасьнікі на сходзе былі найлепшымі агітатарамі за калектывізацыю. Налічвалася на 1-IX 13 гаспадарак, а на 1-XII налічвалася 47 гаспадарак альбо 300 проц прыліву.

Трэба адзначыць, што за апошні час тэмпы прыліву зьнізіліся і што да гэтага часу не складзены пляны вясеньняй пасеўнай кампаніі ў самым Райкалгассаюзе і не даведзены да калгасаў, што таксама адбіваецца на далейшым прыліве ў калгасы. Патрэбна ўзварушыць гэту справу зноў і не паслабляючы праводзіць яе ў далейшым. **Пароцкі Е.**



Аградасьледчая станцыя (Паўночны Каўказ).

# РЫХТУЕМ СПЭЦЫЯЛІСТЫХ-СЬВІНАВОДАЎ.




У Краснадары адкрыты інстытут сьвінагадоўлі, які рыхтуе спэцыялістых-сьвінаводаў.

На здымку: Студэнтка ў габінэце зоотэхнікі.

# Даць устойлівыя і ўраджайныя гатункі насеньня

## Досьледы на Сьмілаўшчыне.

На аснове сталай і сыстэматычнай прапрацоўкі маючыхся досьледаў у саўгасна-калгаснай сыстэме — раён вызначыць і ўстановіць тыпічныя гатункі насеньня. Трэба адзначыць, што сортаспрабаваньне ў раёне праводзілася і раней, але праводзілі яго буйныя абшарнікі Ванькові, Ельскі і інш., з мэтай канчатковага адмежаваньня ад працоўнага сялянства ня толькі па соцыяльна-прававых умовах, але і гатунковасьці насеньня. Толькі некаторыя адзінкі з працоўнага сялянства практыкавалі пасеў па сваіх вузенькіх палетках гатунковага збожжа, якое ўжывалася былымі маёнткамі, хаця пры праспалосіцы збожжа хутка перараджалася і губляла ўсякую сортнасьць.

Толькі Кастрычнікаўская рэвалюцыя зрабіла рашучы пералом у справе разьвіцьця дасьледчай справы Сьмілаўшчыны. Перадавая частка вёскі — дасьледчыкі, якіх у раёне лічылася больш дваццаці, але адданых гэтай справе было ня больш 7 асоб, бо астатняя частка толькі скарыстоўвала дасылаемыя Дасьледчым Інстытутам насеньне з карыснай мэтай і назіраньняў ніякіх не вяла, а калі і вяла, дык толькі з мэтай дыскрэдытацыі дасьледчай справы.

Досьледы ставіліся раённай і вучастковай агранаміяй, саўгасна-калгаснай сыстэмай, некаторымі грамадзкімі арганізацыямі.

### Якія-ж нам патрэбны гатункі ўстойлівага і ўраджайнага насеньня

На гэта адказваюць спэцыялістыя.

Аграном т. Адзярыха галоўную ўвагу сканцэнтраваў на гатунку жыта „Шацкага", радзіма якога быўшы Шацкі раён, Менскай акругі.

З размоў старых сялян, гадоў сорак таму назад двума былымі памешчыцкімі маёнткамі, што каля Шацку, а таксама праз чатыры гады ўласных досьледаў аказалася, што шацкае жыта ўстойлівае і па ўраджайнасьці ня ўступае пяткускаму, але зерне крыху меншае, хаця значна большае за звычайнае. што асабліва характэрна было ў 1927 г., калі пяткускае амаль зусім прапала, а шацкае дало большы ўраджай, чым звычайнае на тры цэнтнэры і складала 10 цэнтнэраў. У наступных гадох шацкае жыта давала сярэдні ўраджай ад 15 да 20 цэнтн., як і пяткускае.

Практыкаваўся высеў яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы шацкага жыта некаторымі вёскамі Сьмілаўшчыны і сяляне яшчэ і цяпер хваляць гэты гатунак, хаця стандартнага гатунку няма. Вытворчая нарада да і спэцыялістыя сельскай гаспадаркі адзначылі, што пяткускае жыта ўступае шацкаму таму, што баіцца вымачкі і дрэннага надвор'я.

Але зусім зводзіць пяткускае жыта пакуль што ня трэба, бо ў адным з саўгасаў вынікі дае добрыя, сярэдні ўраджай ад 18 да 22 цэнтнэраў.

Шмат выказвалася таварышоў і ва ўсіх думка была адна—разводзіць шацкае жыта, а на другім месцы пяткускае. Жыта гатунку „Вятка", разводзіць, як раяць цэнтральныя дасьледчыя ўстановы, але над якім ніякіх досьледаў у раёне ня было, зрабіць масавыя досьледы і толькі тады вынесьці тую ці іншую думку адносна ўжываньня гатунку „Вятка".

Ячмень да гэтага часу ўжываўся мясцовы-шматрадовы, а па саўгасах гатунак „Прынцэса" і ў апошнія часы „Залаты", які пабіў рэкорд гатунку „Прынцэса", ад якой засталася надта дрэннае ўражаньне па ўраджайнасьці і вынослівасьці намнога ўступіўшай мясцоваму звычайнаму гатунку. Толькі „Залаты" можа лічыцца і на далей гатункам магчымым для ўжываньня і пашырэньня ў раёне. Думка

спэцыялістых выявілася і асабліва падкрэсьлена на канфэрэнцыі адносна пашырэньня і ўнядрэньня сельскай гаспадарцы раёну гатунку ячменю „Залаты“, не закідваючы пакуль што і звычайнага мясцовага гатунку ячменю.

**Авёс** „Шацілаўскі“, якім некалькі гадоў былі зацікаўлены саўгасы, калгасы і індывідуальныя гаспадаркі, дае рэальны вынік. Гатунак „Пабеда“ пачаў распаўсюджвацца гады два таму назад. Сяляне не жадалі яго разводзіць; толькі па саўгасам ён заваяваў правы грамадзянства—гавораць спэцыялістыя раёну. Авёс „Гіганг“ не атрымаў добрых вынікаў, асабліва па ўраджайнасьці і па якасьці насеньня, як і не прывіўся гатунак „Эхо“. Гатунак аўса „Залаты дождж“ у некаторых мясцох даваў добрыя ўраджаі, дахадзіўшыя да 16 цэнтн., але няўстойлівы і хутка асыпаецца. Наогул у раёне спрабавалася шмат гатункаў аўса і толькі некаторыя з іх заслугоўваюць асаблівай увагі на распаўсюджваньне ў раёне. Гатунак „Пабеда“ ва рмозах раёну заняў першае месца сярод усіх гатункаў аўса. Калі 40 проц. аўсянага поля было занята гэтым гатункам. Сяляне пераканаліся на справе, што „Пабеда“ дае добрыя ўраджаі, сярэдня ўстойлівы гатунак з вялікім і поўным зернем. Сярэдні ўраджай якога ад 16 да 22 цэнтнэраў. На другім месцы стаіць „Шацілаўскі“ авёс, які таксама разводзіўся ў саўгасах і калгасах, мае добрыя ўраджаі і заслугоўвае ўвагі дзеля распаўсюджваньня ў раёне.

**Азімая пшаніца** ў раёне спрабавалася „Высока-Літоўская“ белая і жоўта чырвоная, але лепшай па ўраджайнасьці і па якасьці аказаўся гатунак белай „В. Літоўскай“, які даў добры ўраджай дахо-дзіўшы да 18 цэнтнэраў, які і неабходна разводзіць і пашыраць, як галоўную культуру ў раёне. Гатунак яравой пшаніцы пакуль што ня знойдзены і застаецца мясцовы, які павінен уступіць месца азімаму гатунку „В. Літоўскай“ пшаніцы.

**Канюшына** больш разводзіцца і прывіваецца на сугліністых і так званых цяжкіх глебах—хуткасьпелая і на лёгкіх глебах—познасьпелая, якая, лепшыя вынікі дае пры адным укосе. На гэтых разнавіднасьцях чырвонай канюшыны адно і двухукоснай застанавілася канфэрэнцыя, якія і трэба распаўсюджваць у раёне.

**Бульба** заслугоўвае асаблівай увагі, як у жывёлагадоўчым ды к таму яшчэ бульбяным раёне. Галоўны гатунак заводзкай бульбы, развадзімай досыць доўгі час—зьяўляецца „Вольтман“, які дае добрыя ўраджаі—да 200 цэнтн., добра захоўваецца і яшчэ лепей пераносіць дрэнныя ўмовы надвор'я.

**Лён.** Галоўным чынам, разводзіўся гатунак лёну—„Рагач“, хаця значную частку плошчы займае „Даўгунец“, які пры недаглядзе пераходзіць у „Рагач“. Агульная думка—увесьці і пашырыць культывіраваньне ільну „Даўгунец“.

**Кармавыя буракі** па сваёй выносьлівасьці і ўраджайнасьці дасягаюць звыш 200 цэнтн. Лепшыя сорты іх экэндорфскія жоўтыя, якія і патрэбна разводзіць.

**Кармавая морква.** „Белая зялёнагаловая“ і *Бручка* „Бангольмская“ зьяўляюцца рэкорднымі як па выносьлівасьці, так і па ўраджайнасьці сярод іншых кармавых гатункаў кораньплодаў развадзімых у раёне.

**Сіласнымі культурамі** ўстанаўліваюцца кукуруза і ў некаторай ступені сланечнік. Гэтыя культуры год спрабаваліся і магчымы для ўжываньня і распаўсюджваньня.

**Сталовымі гатункамі** буракоў, прывіўшыхся ў раёне, зьяўляюцца „Ягіпецкія“—цёмна-чырвоныя плоскія і круглыя. *Морква*, часткова „Германская“, *Бручка* „Масьлена-жоўтая — „Чырвонасельская“. *Гуркі* „Доўжык“, „Вязьнікаўскія“, у некаторай ступені „Мурамскія“. *Цыбуля* „Цытаўская“ — рэпчатая. *Кармавая рэпа—турнэпс* лепшым па ўраджайнасьці аказаўся гатунак „Остэрзундомскі“.

Вышэй паказаныя культуры разводзіліся і разводзяцца ў межах раёну і на аснове ранейшых досьледаў павінны заняць ня толькі пераважнае, але і першае месца ў справе падняцьця ўраджайнасьці ў рэканструкцыйны пэрыяд і дапамагчы хутчэйшаму разьвязаньню галоўнейшых задач у галіне індустрыялізацыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Агранам А. Касьпяровіч.

# Досьледы Забалацкай дасьледчай гаспадаркі

**Авёс.** Пачатак пасеваў аўса наогул на тарфяніку Балотна-дасьледчай гаспадарак прыпадае на 1923 год, але гатункаспрабаваньне гэтай культуры пачынаецца ў 1928 г.

Даныя шматгадовых нагляданьняў кажуць за нясталасьць ураджаю збожжавых культур на тарфяніку. Акалічнасьць гэта знаходзіцца ўне залежнасьці ад ступені асушкі, а абумоўліваецца на нізінных балотных масывах (тыпу Лукаўскага масыву) асобнымі працэсамі, якія ў канчатковым рахунку вызначаюць асобнае хваробнае становішча расьлін, называемае Балотна-дасьледчай гаспадаркай-- *пабяленьнем.*

Гэта зьявішча ў значнай ступені наглядаецца ў 1929 г., калі шэраг гатункаў дае гэткія ўраджаі як 10—25 пуд. на гектар, некаторыя павялічваюць ураджайную лічбу да 40—50 пудоў, і толькі адзін гатунак „Карона“ дае ураджай у 15 цэнтнэраў з *га.* Гранічную і выраўненую ўраджайнасьць гэты гатунак паказвае на працягу ўсіх трох гадоў, і гэта вылучае яго на першае месца сярод іншых гатункаў. Характэрна для яго стойкасьць саломы ў адносінах паляганьня, але зерне мае тоўстую кажуру. Далей вызначаецца па сталасьці ўраджаяў, за ўсе тры гады, „*Пяткуцкі*“, для якога між іншым, характэрна паляганьне і дробнае зерне, заслугоўваюць увагі „*Мясцовы*“ і „*Эха*“. Першы даў у 1930 г. рэкордную лічбу ўраджайнасьці—21,6 цэнтнэраў.

**Бульба** зьяўляецца аднэй з сталых па ўраджайнасьці на балоце культур. З трох дзесяткаў гатункаў сярод раньніх павінны быць вызначаны: „*Раньняя ружовая*“ і значна перавышаючая даны гатунак па крухмалістасьці „*Золотое совершенство*“. Сярод позьніх па масе клубняў вызначаецца „*Рэйтан*“ але па крухмалістасьці яны перавышаюць (амаль на 5%) гатункі „*Балотны*“ і „*Парнасія*“, прычым форма клубня і выраўненасьці кажуць у карысьць „*Балотнага*“ гатунку.

**Кармовыя караньплоды.** Па агульнай масе корму першае месца займае *бручка і турнэпс*, другое—*морква* і апошняе *буракі*. Але вучот проценту сухой мэтэрыі і здольнасьці захаваньня ў лежцы вылучаюць на першае месца *бручку і моркву*.

Сярод паасобных гатункаў вызначаюцца: морква—„*Лаберыхская*“ і „*Зялёнагаловая*“, бручка — „*Бангольмская*“, турнэпс—„*Бартфэльдзкі*“ і „*Эстэрзундомскі*“ і з буракоў „*Барэс*“ *цыліндрычны*.

**Гародныя культуры.** Асобна павінна быць выдзелена па ўраджайнасьці *капуста і морква.* Сярод гатункаў капусты— „*Слава*“, „*Браншвэйская*“ і „*Кубышка*“. „*Слава*“—сярэдняй пасьпяваемасьці, дае круглы і вельмі цьвёрды качан, але не выраўнена. „*Браншвэйская*“ — больш позьніі выраўнены гатунак. „*Кубышка*“— самая позьняя ў мясцовых умовах. З раньніх гатункаў і „*Номер першы*“, як самы раньні і „*Дзітмарская*“.

**Сталовыя буракі** таксама як і кармовыя патрабуюць цяпла і асушкі. Лепшы гатунак—„*Эгіпэцкія*“.

**Фасоля.** Ураджайнасьць залежыць ад ходу мэтэоролёгічных умоў канца вясны і пачатку восені. Лепшы гатунак— „*Трыумф*“.

**Відаспрабаваньне.** Заслугоўвае выключнай увагі на балоце сярод прадзільных—каноплі. З паасобных гатункаў па масе сьцябла стаяць на першым месцы „*Італьянская*“, па ўраджайнасьці зерня— „*Почанская*“ і „*Ніжагародзкая*“. Добра разьвіваюцца некаторыя гатункі „*Канатніка*“.

З масьлічных апрача каноплі пасьпяховы *гарчыца* і *рыжык*, апошні менш церпіць ад пашкоджаньняў і больш ураджайны.

Як сілосная культура—мае посьпех *сланечнік*, больш сталы і ўстойлівы пры частых на балоце замаразках, чым кукуруза.

Сярод лекавых расьлін маюць посьпех на балоце—*рамашка, дурман* і *валяр'янка*.

**Шохор.**



# Культура буракоў

Да апошняга часу культуры буракоў у БССР зьвярталася менш увагі, чым яна заслугоўвае. Асаблівае значэньне набывае культура кармавых буракоў у сувязі з жывёлагадоўчым ухілам сельскай гаспадаркі БССР і фарсіраваньня разьвіцьця гэтай галіны ў самы кароткі час. На гэтае разьвіцьцё прадукцыйнага жывёлаводзтва ўпіраецца ўсюды і кармовае пытаньне. З разьвіцьцём кармавой культуры буракоў і з пашырэньнем плошчы па ёй вырашаецца часткова і кармавая праблема. Аб значэньні кораньплодаў, як сакавітых кармоў пры малочнай гаспадарцы гаварыць ня прыходзіцца.

Кожнаму вядома, што маецца шмат гатункаў буракоў, так, напрыклад, мы ведаем жоўтыя, чырвоныя, белыя, аранжавыя, ружовыя, зялёнагаловыя. Гатункі кармовых буракоў адрозьніваюцца ў межах афарбоўкі па форме кораньплоду. Вядомы формы плоскія, круглыя, авальныя, цыліндрычныя і доўгія, галоўным чынам, доўгавідныя. Чырвоныя сталовыя буракі таксама маюць размаітасьць па форме, як і кармавыя. Але як паказваюць даныя дасьледчых станцый, што ня ўсякія формы і гатункі могуць з посьпехам



Малюнак 1.

разводзіцца ў умовах БССР. Высьвятляецца, што доўгія сарты ці правільней гатункі глыбока-сядзячыя ў глебе ў нашых умовах вырастаюць нездавальняюча, даючы большай часткай галінаватыя кораньплоды і больш нізкі ўраджай, чым гатункі, якія сядзяць асноўнай часткай



Малюнак 2.

кораньплода над паверхняй глебы. Акрамя таго капаньне доўгіх гатункаў патрабуе затраты працоўных рук у 3—4 разы больш, чым круглых, плоскіх і цыліндрычных. Доўгія гатункі зьяўляюцца познасьпелымі і не заўсёды высьпяваюць у нашых умовах і патрабуюць добра ўгнаеных глеб (гл. малюнак 1).

На падставе даных Беларускай станцыі Ўсесаюзнага Іституту Расьлінаводзтва, а таксама і іншых дасьледчых станцый з кармавых сартоў мы можам прапанаваць наступныя: „баррэс цыліндрычны“, „баррэс авальны“ (гл. малюнак 2) і экендорфскую жоўтую. Ураджайнасьць іх па БССР каля 600 цэнтн. на *га*. У апошні час асабліва выдзяляецца „баррэс“ як па ўраджаі, так і па ўтрыманьню сухой матэрыі. З сталовых: „эгіпэцкія плоскія“ (мал. 3), „эгіпэцкія плоска-круглыя“, Бордо-грыбоўскай станцыі, „дзетройт“ і „экліпс“ (мал. 4). Ураджайнасьць іх каля 400 цэнтн. на *га*. Калі ж мы паглядзім, што намі зроблена ў гэтай важнай галіне, як буракасеяньне, у сэнсе забясьпечаньня нашай гаспадаркі насенным

матар'ялам, дык убачым, што ў гэтых адносінах справа абстаяла, ды і цяпер яшчэ абстаіць вельмі дрэнна.

Сэлекцыйная прапрацоўка гатункаў цікавых для Беларусі толькі нядаўна пачата, хаця ўжо за гэты кароткі час Бел. станцыя Інстытуту Расьлінаводзтва зрабіла шмат, але ўсё-ж такі ў параўнаньні з запатрабаваньнямі краіны гэтага недастаткова, неабходна ўзмацненьне і пашырэньне гэтай справы ў самы бліжэйшы час.



Малюнак 3.

Пры апрабацыі караньплодаў нам прыходзілася сустракацца з пасевам нядобраякасных засьмечаных гатункаў, а таксама гатункаў зусім не адпавядаючых умовам БССР.

Па кантрольных лічбах плянуючых органаў плошча пад буракамі павінна ўзрасьці з 1000 *га* займаемых зараз, да *дзесяткаў тысяч* за бліжэйшыя гады. Гэта гаворыць за тое, што культура буракоў павінна замацавацца ў палявым кліне, а адсюль неабходна зараз-жа ўзяцца за падрыхтоўку гэтых кліноў, так як караньплоды больш патрабавальны, чым хлебныя ў адносінах угнаеньня, апрацоўкі глебы і інш. Не гаворачы ўжо аб тым, што пры тых мізэрных пасевах буракоў у БССР, якія існуюць да гэтага часу, свайго насеннага матар'ялу не хапала, а тым больш пры такім разгортваньні пасеўнай плошчы, неабходна будзе і адпаведнае павялічэньне плошчаў пад насеньнікі.

У адносінах насеннаводзтва варта сказаць, што ў Паўночнай і нават у сярэдняй частцы БССР насенная культура буракоў не ўва ўсе гады поўнасьцю высьпявае, нават пры ўжываньні спэцыяльных агратэхнічных мерапрыемстваў як-та: пасынкаваньне, прышчэпка, адпаведныя ўгнаеньні, якія зьяўляюцца ў умовах БССР абавязковымі. Значыцца насеннаводзтва буракоў у вялікіх разьмерах неабходна сканцэнтраваць у самых паўднёвых раёнах БССР і пры тым толькі для задавальненьня мясцовых патрэб. Яскрава, што побач з вырашчваньнем насеньня, павінен быць наладжан адпаведны інструктаж і старанны адбор, бо без належнага адбору самыя лепшыя гатункі ў працягу некалькіх пакаленьняў могуць вырадзіцца ў зусім беспародны матар'ял.

Першы адбор пры прарэджваньні, калі наглядаецца бацьвіньне з другой афарбоўкай, затым восеньню пры ўборцы караньплоды адбіраюцца па форме і афарбоўцы скуркі. Усе расьліны загніўшыя, маючыя параненьні і з пашкоджаным бацьвіньнем выбракоўваюцца. Уборка павінна ўтварацца старанна і ўважліва без параненьня, бо ў мясцох параненьня караньплод пачынае гніць. Абрэзка бацьвіньня ўтвараецца ня ў шчыльную к галоўцы, а, прыкладна, на 1 *см* ад яе.

Хаваньне можа ўтварацца ў падвале ці буртох, і ў тым, і ў другім выпадку раіцца перасыпка пяском. Пасадка на-



Малюнак 4.

сеньнікаў утвараецца вясной, па магчымасьці раней (канец красавіка, ці першыя чыслы маю), а для гэтай мэты неабходна глебу падрыхтоўваць з восені, каб

вясной можна было садзіць без перапашкі. Адлегласьць аднаго гатунку ад другога каля $^1/_2$—1 кілёмэтра. Адлегласьць у радох і міжрадзьзях прыкладна 75×75 *см.* Пасадка па сьвежаму ўгнаеньню не дапушчаецца, садзяць-жа на другі год пасьля ўнясеньня гною, напрыклад: пасьля капусты, гуркоў і г. д. Добрыя ўраджаі даюць папярэднія пасевы бабовых і сьвежаўзоранае канюшынішча і нават аблогі, але не на нізкіх мясцох. Зварот буракоў на ранейшае месца раней 3 год недапушчальны.

Пад насенную культуру ўносіцца перагной, а таксама і мінэральныя солі і галоўным чынам супэрфасфат, неабходны для ўтварэньня насеньня, каля 3-х цэнтнэраў, калійнай солі 30 проц. 1,5 цэнт. і салетры каля 1 цэнтн. на *га.*

Догляд за насеньнікам на працягу лета звычайны: полка, пульхненьне і г. д. Самае лепшае пульхненьне і па магчымасьці часьцей утвараецца з вясны, бо высокі рост, правільная квадратовая пасадка дазваляе шырокае ўжываньне для апрацоўкі планэт і конскую сілу. Далей пры дастатковым росьце неабходна падвязка к кольлям, а таксама ўжываньне пасынкаваньня і прышчэпкі. У выпадку поўнага пасьпяваньня насеньнікі зжынаюцца сярпом і звозяцца пад навес для прасушкі, дзе яны разьвешваюцца.

**В. Красачкін.**



За рамонтам бульбарэзкі ў калгасе Астрашыцка-Гарадзецкага раёну.

# Лепшыя сіласныя культуры

Разьвядзеньне сіласных культур у мажліва большых разьмерах зараз выклікаецца самім жыцьцём. Павялічэньне інтэнсыўнасьці сельскай гаспадаркі ў значнай сваёй частцы павінна адбыцца праз пашырэньне і належную арганізацыю жывёлаводных галін сельскай гаспадаркі. Утварэньне буйных жывёлаводных і мясамалочных гаспадарак павінна быць прыкладам найбольш рацыянальнай арганізацыі жывёлаводных гаспададарак сацыялістычнага тыпу.

Бясспрэчна, што арганізацыя кармавога балянсу ў жывёлаводных гаспададарках зьяўляецца адным з найважнейшых момантаў. Невырашэньне кармавога пытаньня ў нашых умовах заўсёды ўпіраецца ў недахоп кармоў. У справе ліквідацыі ці зьмяншэньня гэтага недахопу пры ўтварэньні жывёлаводных гаспадарак на дапамогу прыходзяць сіласныя культуры. Неабходнасьць разьвядзеньня сіласных культур для атрыманьня належных кармавых запасаў пры знаецца ўжо ўсімі і ў асобных працаўнікоў калектыўнай гаспадаркі можа ўзьнікнуць толькі пытаньне: якія-ж сіласныя культуры трэба сеяць ў тых ці іншых умовах?

Сіласнымі культурамі трэба лічыць тыя культуры, якія даюць вялікую масу ўраджаю на гектар, пры добрай кармавой якасьці. Лепшымі з такіх культур зьяўляюцца кіяхі і сланечнік, якія з усіх культур, маючых кармавое значэньне, даюць найбольшы ўраджай масы і ў сіласаваным выглядзе вельмі дабраякасны корм. Параўнаньне ўраджайнасьці паказаных культур па Турскай Дасьледчай Станцыі на працягу чатырох год (сланечнік за тры гады) дае наступныя лічбы ўраджайнасьці:

кіяхі 296,5 *цнт* сырой масы на *га*

сланечніку 217,7 *цнт* сырой масы на *га.*

У 1930 г. ураджай паказаных культур



Кіяхі на дасьледчым полі Турскай дасьледчай станцыі.

дасягае для кіяхаў 355 цнт. сырой масы на *га* і для сланечніку 261 цнт. У сярэднім ураджай сланечніку, як бачым, крыху ніжэй за кіяхаў, аднак у асобныя гады, напрыклад, у 1928 г., ураджай сланечніка перавышае ўраджай кіяхаў. Выходзячы з суадносін ураджайнасьці, а таксама з таго, што харчовая якасьць кіяхаў вышэй за сланечнік, перавага для ўмоў БССР павінна застацца за кіяхамі, але гэтым не выключаецца мажлівасьць сухаўстойлівая кармавая культура, будзе мець ня меншае значэньне за кіяхі. Аднэй з перашкод для шырокага распаўсюджаньня сорга побач з іншымі сіласнымі культурамі ў бліжэйшы час будзе недахоп насеньня.

Трэба мець на ўвазе, што ня ўсе гатункі сіласных культур у поўнай меры прыгодны для вырашчваньня іх на сілас. Позьняспелыя гатункі кіяхаў і сланечніку ва ўмовах паўднёва-ўсходняй



Іспыты Амэрыканскага трактару.

і неабходнасьць культуры сланечніка на сілас.

На раду з кіяхамі і сланечнікам у якасьці сіласнай культуры можа мець значэньне і сорга. На супясчанай глебе Турскай Дасьледчай Станцыі параўнаньне кіяхаў і сорга за 1926 і 1927 г. г. дае перавагу ў карысьць сорга.

У пераводзе на сухую масу ўраджай кіяхаў у гэтым выпадку складае 104 цнт., а сорга 117 цнт. на гектар. Нажаль апошнія тры гады ў пасевах Станцыі культуры сорга ня было і дадатковых дадзеных не атрымана, аднак і двухгадовых дадзеных даволі, каб сказаць, што на лёгкіх глебах, якія больш паддаюцца ўплыву засушы, сорга, як за-

БССР зьяўляюцца найбольш прыгоднымі, бо за больш доўгі пэрыяд вэгетацыі яны даюць шмат зялёнай масы.

У выніку аднагагадовага параўнаньня прадукцыйнасьці некаторых гатункаў сіласных культур на Турскай Дасьледчай Станцыі атрыманы наступныя ўраджайныя дадзеныя сырой масы на гектар:

Сланечнік:

1. Масьлічны Саратаўскі № 891—266 *цнт* сыр. масы на *га*
2. Масьлічны Саратаўскі комплексны — 255,2 *цнт* сыр. масы на *га*

Кіяхі

1. Лімінг . . . 468,3 *цнт* сыр. масы на *га*
2. Кароль-Піліп . 356,1 „ „ „ „
3. Айворыкінг . 325,0 „ „ „ „

Тут мы прыводзім лічбы па найбольш ураджайных гатунках і лічым неабходным падкрэсьліць, што пры моцнай запраўцы глебы ўраджаі сіласных культур могуць быць значна павялічаны. Амэрыканскія ўраджаі сланечніку ў 900 *цнт* і нямецкія ў 400 *цнт* сырой масы на *га* кажуць нам аб тым, што ўраджаі, якіх мы дасягнулі, не зьяўляюцца максымальнымі, а, наадварот, яны яшчэ настолькі нізкія, што могуць быць павялічаны ня менш, як у два разы і што падняцьце ўраджайнасьці наогул і ў прыватнасьці сіласных культур—гэта наша неадкладная задача. Бязумоўна, што замежныя ўраджаі не зьяўляюцца для нас ідэалам, да якога мы імкнемся, аднак яны яскрава падкрэсьліваюць наколькі ў нас яшчэ шмат застаецца невыкарыстаных мажлівасьцяй, належнае выкарыстаньне якіх будзе вялікай дапамогай, садзейнічаючай соцыялістычнаму росту нашай краіны.

Рацыянальная арганізацыя буйных жывёлагадоўчых гаспадарак бяз моцнай кармавой базы немагчыма і ў сваю чаргу моцную кармавую базу нельга ўтварыць бяз сіласных кармоў.

Культура сіласных расьлін і вырашае гэтае пытаньне.

**Забела Зьм.**



Батрачка з Гомельшчыны на Менскім рабфаку.




Канюшына без угнаеньня па торфу на дасьледчым полі Турскай Дасьледчай станцыі.

# ЗДАБЫВАЙЦЕ ТОРФ

## Торф як угнаеньне

Пра карысьць ужываньня торфу на ўгнаеньне вельмі шмат ужо пісалася як у сельска-гаспадарчых часопісах, так і ў штодзенным друку. Шмат аб ім пісалі і пішуць таму, што ён як угнаеньне даўно ўжо патрабуе праў грамадзянства, а між тым сельска-гаспадарчая практыка як сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі—саўгасаў, калгасаў, так і індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак дае вельмі абмежаванае ўжываньне гэтага найкаштоўнейшага ўгнаеньня—торфу. У дадатак да таго, што пісалася раней пра дзеяньне торфу, як угнаеньня, мы ніжэй прыводзім ураджайныя даныя жыта (ураджай 1929 г.) і канюшыны, якая падсеена ў жыта (ураджай 1930 г.), якія атрыманы Турскай сельска-гаспадарчай дасьледчай станцыяй на лёгкіх сугліністых глебах.

Прыбаўкі ўраджаю жыта і канюшыны ад торфу ў параўнаньні з гноем.

| Назва ўгнаеньня | Жыта (зярна) прыбаўка на *га* | | Канюшыны 1-га году прыбаўка на *га* | |
|---|---|---|---|---|
| | У цэнт. | У %% | У цэнт. | У %% |
| 1. Без угнаеньня (абсалютны ўраджай) . . . . | 20,9 | — | 19,4 | — |
| 2. Торф 36 тон на *га* | + 5,3 | 25,3 | + 27,0 | 139,1 |
| 3. Гной 36 „ „ | + 5,5 | 26,3 | + 13,4 | 69,1 |
| 4. Торф 18 „ „ | + 1,5 | 7,2 | + 24,1 | 80,5 |
| 5. Гной 18 „ „ | + 2,2 | 10,5 | + 9,7 | 50,0 |

Прыведзеныя лічбы вельмі настойліва агітуюць за торф. Ураджай жыта па

торфу, як бачым, ня ніжэй, як па гною, а па ўплыву на ўраджай канюшыны торф нават набывае перавагу: 18 тон торфу на *га* даюць прыбаўку ўраджаю канюшыны ня менш, як 36 тон гною на *га*.

**Увага:** Торф унасіўся з нізіннага тарфяніку з разьліку на сухую масу 36 тон сухой масы на *га*.

Карысьць ад торфу відавочная. Там, дзе ён ёсьць, ён з посьпехам можа папаўняць недахоп звычайнага гною. Торф трэба абявязкова ўжываць на ўгнаеньне, папярэдне яго падрыхтаваўшы. Калі торф з нізіннага балота яго трэба абавязкова праветрыць, выкапаўшы з тарфяніку на зіму, а калі торф з махавога балота, яго лепей ужываць на подсьціл жывёле разам з саломай, а тарфяны гной вельмі высокай якасьці ўжываць на ўгнаеньне звычайным парадкам.

На торф трэба зьвярнуць належную ўвагу. Ён у значнай меры пакрывае дэфіцыт штучных угнаеньняў.

**Забела.**

## За грамадзкае харчаваньне ў калгасах



У калгасе імя 12 гадавіны Кастрычніка, арганізавана грамадзкае харчаваньне.

**На здымку:** Калгасьніца рыхтуе сьнеданьне калгасьнікам.

# ХЛОПІНЫ ЦІ БУЛЬБА?

Бульба, як вядома, расьліна даволі трывалая і можа даваць добрыя ўраджаі нават там, дзе іншыя культуры родзяць дрэнна. Яна хоць і патрабуе большай затраты працы, чым зернавыя расьліны, але затое гэтым яна спрыяе палепшаньню ўрадлівасьці глебы, дае большую карысьць, а таксама падвышае ўраджаі ў расьлін, якія сеюцца пасьля яе.

Апошняе вельмі важна на глебах лёгкіх і бедных, якімі зьяўляюцца глебы БССР і таму ня дзіва, што культура бульбы на Беларусі шпарчэй пашыраецца, чым усе іншыя. Ураджайнасьць бульбы таксама расьце значна шпарчэй, чым іншых культур, аб чым гаворыць нам сярэдняя за 1924—27 г. у проц. да сярэдняга ўраджаю за 1909—1913 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| па жыту азімаму | 92,2 | па бульбе | 123,9 |
| ячменю | 99,2 | ільну валакну | 73,2 |
| аўсу | 92,5 | ільняному семю | 76,7[1]) |

Трэба яшчэ адзначыць і тое, што бульба вельмі спажыўная расьліна ў тым, што яна ахвотна зьядаецца усёй свойскай жывёлай пры высокай пажыўнасьці і значнае месца займае таксама ў справе харчаваньня шырокіх працоўных мас.

Пры ўсім гэтым, пры масавым разьвядзеньні бульба мае той недахоп, што яе бульбіны захоўваюцца ў сьвежым выглядзе, параўнальна са збожжам, дрэнна, а таму патрабуюць значнага клопату.

Як вядома сырая бульба мае ў сабе 25 проц. спажыўных матэрый і 75 проц. вады (у сярэднім) і па прычыне такога вялікага ўтрыманьня вады бульба лёгка псуецца. Бульбу нельга захоўваць так, як жыта, напрыклад, ці другое збожжа, якое ў сярэднім мае толькі 12 проц. вільготнасьці і можа быць проста насыпана ў засеках, быць на сьвятле пры рознай тэмпэратуры і на працягу любога часу. Бульба патрабуе спэцыяльнага хаваньня ў цёмных скляпох, у капцох, у ямах з добрай ізоляцыяй ад дзеяньня знадворнай тэмпэратуры, прычым тэрмін хаваньня бульбы абмежаваны, пасьля якога бульба канчаткова губляе сваю варгасьць. Нельга сырую бульбу захоўваць нават на працягу аднаго году. Апрача таго, нават пры самым ідэальным хаваньні бульбы, па прычыне натуральнага дыханьня зьніжаецца ўтрыманьне спажыўных матэрый у бульбінах, прычым, чым далей, тым гэтая страта робіцца ўсё большай, а калі бульба загніецца, дык і гаварыць няма чаго.

Усё гэта перашкаджае карыстацца бульбаю больш, чым гэтага хацелася-б: 1) гэтаму перашкаджае немагчлівасьць захаваньня бульбы ў сьвежым выглядзе на працягу ўсяго году; 2) к вясьне цана на бульбу, звычайна, настолькі падымаецца, што ёю карміць жывёлу зьяўляецца проста нявыгадным.

Калі мы зараз ставім пытаньне аб вырашэньні кармовай проблемы для жывёлы і харчовай для людзей, дык, бязумоўна, далейшае разьвядзеньне бульбы і пашырэньне яе плошчы ў севазвароце нават ня можа выклікаць ніводнага пункту пярэчаньня, і гэтага пашырэньня нельга скараціць з таго меркаваньня, што бульба дрэнна захоўваецца. Бульба ня можа быць заменена на БССР ніякай другой культурай, а таму ўсякі спосаб перапрацоўкі яе ў такі продукт, які падобна збожжу ці нават лепш, меў-бы трываласьць пры хаваньні і захоўваў-бы

[1]) Даклад т. Гамарніка на XII зьезьдзе КП(б)Б.

ўсе спажыўныя матэрыі сьвежай бульбы, заслугоўвае падвойнай увагі.

На жаль гэтае пытаньне ў нас ня ставілася і ня ставіцца, у той час, калі такая задача на сёнешні дзень, бязумоўна, зьяўляецца вырашанай ва ўсіх дэталях. Яе вырашае прамысловая сушка бульбы. Перапрацоўка бульбы на *хлопіны*, як адзін са спосабаў гэтай сушкі, дзякуючы дасканальнасьці апаратаў, якраз зьяўляецца вытворчасьцю адпавядаючай пастаўленым мэтам.

Вось тыя галоўныя перавагі, якія дае прамысловая перапрацоўка бульбы:

1) Бульбавыя хлопіны зьяўляюцца канцэнтраваным кормам і захоўваюць пры выпрацоўцы тую-ж колькасьць спажыўных матэрый, якую мела ў сабе сьвежая бульба.

2) Дзякуючы ўтрыманьню ў хлопінах толькі 10-15 проц. вільготнасьці, яны могуць захоўвацца гадамі ў сьвірнах, пры такіх-жа ўмовах у любой тэмпэратуры, як і збожжа, без малейшай страты як у якасных, так і ў колькасных адносінах. Болей таго, хлопіны могуць захоўвацца нават лепш, бо ў іх зусім адсутнічае процэс дыханьня, які ёсьць у зёрнах.

3) Хлопіны па вышэйпаказаных прычынах можна перавозіць на *далёкую адлегласьць*, бо дзякуючы вялікаму ўтрыманьню спажыўных матэрый (90 проц.) і мінімальнаму ўтрыманьню вады (10 проц.) могуць вытрымліваць *любы фрахт*. З гэтага боку зусім сур'ёзна паўстае пытаньне ці варта з БССР у Ленінград, Маскву і др. гарады СССР вазіць ваду? Ці ня лепш было-б бульбу ў пераапрацованым выглядзе вывозіць. Эканомія атрымалася-б амаль у 3 разы толькі на адных вагонах, бо пры транспарце сьвежай бульбы 75 проц. фрахту падае на перавозку вады і толькі 25 проц. на спажыўныя матэрыі.

Пры ўмове с.-г. раёнаваньня зьяўляецца поўная мажлівасьць у мясцовасьцях з падыходзячымі кліматычнымі ўмовамі для росту бульбы павялічыць плошчу яе за лік зернавых расьлін і ў пераапрацованым выглядзе забясьпечваць хлопінамі тыя мясьцовасьці, дзе адчуваецца патрэба ў кармовых сродках і дзе, па прычынах эканамічных ці іншых, культура бульбы зьяўляецца абмежаванай.

Такую ролю павінна заняць і наша Рэспубліка.

Як усякая новая справа, пераапрацоўка бульбы ў хлопіны можа выклікаць многа недавер'я і зусім правільна тут-жа паставіць пытаньне аб кармавой вартасьці хлопін. Ці не зьяўляецца гэта часам псаваньнем такога каштоўнага матар'ялу, як бульба?

Мы ўжо адзначалі вышэй, што пераапрацоўка бульбы на хлопіны не цягне за сабою страты спажыўных матэрый, а выдаляе толькі ваду. Таксама пры такой пераапрацоўцы ў хэмічным складзе не адбываецца якіх-небудзь зьмен, бо бульба толькі запарваецца і выдаляецца з яе вада, якая ня мае ніякіх спажыўных матэрый і такім чынам сухі прадукт „хлопіны“ па сваім складзе тое-ж самае, што і сьвежая бульба.

Вось даныя аналізу добраякасных нямецкіх хлопін (аналіз быў зроблен Інстытутам Жывёлагадоўлі пры унівэрсытэце ў Гале, Нямеччына):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Вады . . . | 10,51 проц. | Безазоцістых экстрактных матэрый . . . . . | 77,38 проц. |
| Сырога протэіну | 6,61 „ | Тлушчаў . . . . | 0,56 „ |
| Сырой абалоніны | 0,77 „ | Попелу . . . . . | 4,17 „ |



На ільнанарыхтоўчым пункце. Калгасьнікі здаюць ільнавалакно.

Такім чынам хлопіны маюць вельмі невялікі процант вады і мала абалоніны. Апошняя, як вядома, пры скармліваньні жывёлай затрымлівае ў іх процэс жаваньня і ператраўліваньня, зьніжаючы тым самым якасьць корму. Галоўнымі спажыўнымі матэрыямі ў хлопінах зьяўляюцца так званыя безазоцістыя матэрыі—крухмал. Высокая колькасьць крухмалу ў кармох падымае іх якасьць і зьяўляецца вельмі каштоўнай пры адкорме жывёлы. Нездарма-ж адзін са спосабаў складаньня і падліку рацыёнаў для жывёл носіць назву *крухмальных эквівалентаў Кельнера*, бо крухмал зьяўляецца адной з лепш ператраўліваемых матэрый.

Так як сьвіньня з усіх жывёл найбольш здатная для хуткага адкорму, дык бульбавыя хлопіны зьяўляюцца найлепшым прадуктам якраз для адкармліваньня сьвіней. Даныя паводле досьледаў нямецкіх прафэсароў Кельнера і Фінгерлінга, пастаўленых для вызначэньня ператраўнасьці бульбавых хлопін, паказваюць што ў сьвіней ператраўнасьць органічных матэрый хлопін дасягае да 95 проц. г. зн. зьяўляецца амаль поўнай. Гэта значыць, што ў сьвіней пры скармліваньні бульбавых хлопін са 100 частак толькі 5 застаецца нескарыстанымі, якія вылучаюцца разам з калам. Гэтакая высокая ператраўнасьць толькі ў бульбавых хлопінах, бо яна ніжэй нават у такіх каштоўных кармоў як ячмень, кукуруза ды інш.

Бульбавыя хлопіны могуць з посьпехам давацца як маладым, так падрастаючым, і сьвіньням зусім дарослым, пастаўленым на сальны адкорм. Пры кармленьні найлепшых посьпехаў і эфэкту ўдаецца дасягнуць, як вядома, пры найбольшай рознастайнасьці кармоў з найвышэйшым утрыманьнем спажыўных матэрый. Прыведзеныя намі даныя паказваюць, што бульбавыя хлопіны якраз маюць высокі процант крухмалу, па якой прычыне яны могуць служыць добрым дадатковым сродкам да кармовых рацыёнаў.

Маладая сьвіньня пры сваім разьвіцьці адкладае болей мяса і меней сала. Мяса-ж мае ў сабе ваду і бялок, прычым бялок цела можа ўтварацца толькі з бялку корму, чаму вельмі важна, каб для росту маладой сьвіньні ў корме было даволі бялку. Затым да бульбавых хлопін трэба дабаўляць: зьнятае малако, мясную і рыбіную муку і інш. прадукты, якія маюць у дастатковай колькасьці бялок.

Для гэтага можа служыць нават лубін, вызвалены шляхам асобага прыгатаваньня ад алкалоідаў, якія маюць атрутныя ўласьцівасьці.

За недахопам месца мы ня спыняемся на другіх нязвычайна важных момантах скарыстаньня хлопін, як іншым жывёлам, так і для мэт тэхнічнай перапрацоўкі.

Адзначаем толькі, што хлопіны з посьпехам могуць ісьці і непасрэдна на харч людзям пры прыгатаваньні розных страў, і як дамешка да мукі пры выпечцы хлеба, ад чаго ён набывае вельмі добрыя якасьці і нават пры сіласаваньні, калі ад дабаўленьня хлопін удаецца атрымаць сілас з найменшай стратай спажыўных матэрый і найлепшай якасьці.

Адсюль паўстае пытаньне аб неабходнасьці ставіць гэтую справу на практычныя рэйкі для хутчэйшага вырашэньня кармавой праблемы, а цераз гэта і харчовай. Канцэнтраваныя кармы неабходны як пры сьвінагадоўлі, так і пры жывёлагадоўлі наогул. Можна ўпэўнена сказаць, што хлопіны зьяўляюцца ня толькі каштоўным кормам самі па сабе для цэлага шэрагу жывёл, але ва многіх выпадках з посьпехам могуць замяніць некаторыя канцэнтраваныя кармы.

Якія-ж вывады з гэтага можна зрабіць.

Перш за ўсё тое, што калі Нямеччына ў 1918 годзе сушыла 180.000 000 пудоў бульбы, дык зьменшэньне гэтай лічбы ў далейшыя гады ўсё-ж не гаворыць аб тым, што гэтая справа ня мае рацыі, наадварот, значная колькасьць перапрацоўваемай такім чынам бульбы ў апошнія гады ў Нямеччыне гаворыць аб рэнтабельнасьці і патрэбнасьці гэтай справы.

Пабудова буйных заводаў па прамысловай сушцы бульбы рознымі спосабамі ўжо зьяўляецца задачай сёнешняга дня і на БССР. Савецкая Беларусь зьяўляецца самай падыходзячай краінай для разьвіцьця гэтай новай галіны прамысловасьці як з прычыны значнай плошчы пасеваў бульбы, так і з прычыны займаемага ёю месца ў кармавым і харчовым пытаньні ня толькі жыхароў БССР, але і Саюзу.

Належным арганізацыям і ўстановам, асабліва-ж Наркамзему і Наркамгандлю Беларусі трэба прыняць рашучыя захады для зруху ў гэтай галіне. Вельмі важна і патрэбна, каб гэтае пытаньне абмеркавалі і выказалі сваю думку ў прэсе з прапановамі працаўнікі і спэцыялісты Бульбянога і Сьвінаводнага Інстытутаў.

Мажліва, што гэтую справу трэба яшчэ падрыхтоўваць і ў сэнсе кадраў, бязумоўна, гэта работа вялікага маштабу, але пытаньне аб гэтым павінна ставіцца ва ўвесь рост.

**А. Вечар.**

# Аб справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў калгасах БССР

**Пастанова праўленьня Белкалгасцэнтру**

1. Справаздачна перавыбарчую кампанію правесьці ў калгасах з 15-га студзеня па 20-га лютага 1931 г., а раённыя зьезды калгасаў праводзяцца пасьля раённых зьездаў саветаў.

2. У калгасах, якія арганізаваліся ўвосень 1930 г. і пасьля, паводле пастановы райкалгассаюзу (сэкцый), перавыбары кіруючых органаў не праводзяцца за выключэньнем тых выпадкаў, дзе праўленьні калгасаў не забясьпечваюць кіраўніцтва і ўзмацненьня калгасаў, або дзе выбары праўленьняў праведзены няправільна.

3. Справаздачна-перавыбарчая кампанія ў колгасах павінна зьявіцца генэральнай масавай самаправеркай дасягненьняў і недахопаў калгаснага будаўніцтва, становішча працы ўсіх органаў калгассыстэмы, замацаваньня калгасаў і мабілізацыі ўсёй увагі калгасьнікаў і адзінаасобнікаў вакол чарговых палітычна-гаспадарчых і культурных задач партыі.

Аднэй з асабліва важных і рашаючых задач зьяўляецца абярненьне справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў шырокую масавую кампанію за далейшае разгортваньне калектывізацыі, за шырокае ўцягненьне бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы, за далейшае наступленьне на кулацтва і ліквідацыю яго як клясы, на аснове суцэльнай калектывізацыі.

4. Асноўныя заданьні справаздачна-перавыбарчай кампаніі:

а) Падвядзеньне вынікаў гаспадарчага году, вынікаў калектыўнае працы і разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў. Арганізацыя на аснове гэтага шырокага прыліву бядняцка-серадняцкіх мас вёскі ў калгасы і барацьбы з праваапартуністычнай практыкай, хвасьцізмам і самацёкам у гэтым пытаньні.

б) Выкананьне заданьняў па спэцыялізацыі калгасаў, па ўкамплектаваньні сьвіннога і малочнага стада, павышэньні таварнасьці калгасаў і ажыцьцяўленьні плянаў гаспадарчага будаўніцтва.

в) Забесьпячэньне правільнай арганізацыі вытворчасьці і працы на аснове гадавых фінансава-вытворчых пляпаў. Разьвіцьцё вытворчай самадзейнасьці калгасьнікаў, іх гаспадарчай ініцыятывы ў зьнішчэньні недахопаў у рабоце калгасаў на аснове сацспаборніцтва і ўдарніцтва і шырокай самакрытыкі.

г) Самаправерка падрыхтаванасьці калгасаў да веснавой сяўбы, стварэньне насенных фондаў, забесьпячэньне жывёлы кармамі, рамонту машын і іншыя работы.

д) Мабілізацыя калгасьнікаў на выкананьне і перавыкананьне на аснове сустрэчных пляпаў дзяржаўных заданьняў па збожжы і ільназагатоўках, гадоўля цялят, укамплектаваньне сьвінагадоўчых і малочна-жывёлагадоўчых калгасаў, спэцбудаўніцтва, пашырэньне плошчы ў веснавую пасеўкампанію і г. д.

е) Скарачэньне і патаненьне калгаснага апарату.

ж) Праверка і вызначэньне канкрэтных мерапрыемстваў па разгортваньні працы з батрацтвам і беднатой, замацаваньне саюзу з серадняком, прыцягненьне серадняка да ўдзелу ў кіраўніцтве калгасамі.

з) Ачыстка калгасаў ад клясава-чужых элемэнтаў.

і) Максымальна скарыстаць перавыбары для разгортваньня культмасавай работы ў калгасах і ўзмацненьня інтэрнацыянальнага выхаваньня калгасьнікаў.

к) Мабілізацыя ўвагі калгасаў на падрыхтоўку масавых кадраў.

л) Разгортваньне мерапрыемстваў па ўмацаваньні с.-г. камун і абярненьні іх у сапраўдныя ўзоры калектыўнай гаспадаркі, і мерапрыемстваў па перарастаньні вытворчых т-стваў і т-стваў па грамадзкай апрацоўцы зямлі ў больш высокую ступень—с.-г. арцель.

м) Папулярызацыя ролі машынатрактарных станцый і ўзмацненьне сувязі калгасаў з МТС і саўгасамі.

5. Забесьпячэньне 100 - процантнага актыўнага ўдзелу калгасьнікаў і калгасьніц у справаздачна-перавыбарчых сходах, а таксама максымальнае прыцягненьн

на іх бядняцка-серадняцкіх мас адзінаасобнікаў павінна зьяўляцца важнейшай задачай перавыбараў. Райкалгассаюзы і праўленьні калгасаў павінны зьвярнуць галоўнейшую ўвагу на арганізацыйную падрыхтоўку да перавыбараў з тым, каб да перавыбарчых сходаў былі праведзены рэвізіі фінансава-гаспадарчага становішча калгасаў, складзены гадавыя справаздачы і вытворчыя пляны на 1931 год з шырокім удзелам у гэтай рабоце самых калгасьнікаў.

6. Перавыбары павінны быць скарыстаны для рашучай ачысткі кіруючых органаў калгасаў ад сацыяльна-чужых элемэнтаў і замены работнікаў, няздольных праводзіць правільна-клясавай лініі ў калгасным будаўніцтве, няздольных кіраваць калгасам, бюракратаў, безгаспадарнікаў, растратчыкаў і інш.—умелымі арганізатарамі камуністымі, камсамольцамі, рабочымі „25-тысячнікамі“, ударнікамі з батракоў, беднякоў і серадняков.

**7. У перавыбарчую кампанію вылучыць ня менш 500 лепшых калгасьнікаў з старых калгасаў у якасьці кіраўнікоў у новыя яшчэ незамацаваныя калгасы, 200 калгасьнікаў і калгасьніц на пастаянную работу ў райкалгассаюзы (сэкцыі) і 10 калгасьнікаў у цэнтральны апарат.**

8. Дабіцца рашучага пералому ў вылучэньні жанчын-калгасьніц на кіруючую работу ў калгасах з тым, каб у выніку выбараў у складзе кіруючых органаў было ня менш 35 процантаў жанчын.

9. Раённым калгассаюзам забясьпечыць больш поўнае скарыстаньне і замацаваньне „25-тысячнікаў“ на кіруючай рабоце ў калгасах і вылучэньне праявіўшых сабе на работу ў раённым зьвяне калгаснай сыстэмы.

10. Перавыбарчая кампанія павінна ўзмацніць кіруючыя органы калгасаў нацменшасьцяй і інтэрнацыянальных калгасаў. Неабходна дабіцца таго, каб лепшыя прадстаўнікі нацменшасьцяй у інтэрнацыянальных калгасах абавязкова ўводзіліся ў склад кіруючых органаў гэтых калгасаў.

11. Райкалгассаюзы павінны забясьпечыць кіраўніцтва калгасамі па праведзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

**Старшыня праўленьня Белкалгасцэнтру Міцькоў.**



На агульным сходзе калгасьнікі абгаварваюць плян пасеўнай кампаніі.

# Што чытаць да веснавой сяўбы

**Кніжкі да веснавой пасеўнай кампаніі і другіх пытаньнях сельскай гаспадаркі якія выдадзены і выдаюцца Белдзяржвыдавецтвам.**

## Вышлі з друку:

| | Цана Р. | К. |
|---|---|---|
| *І. Трапашка*. Шматгадовыя сеяныя пашы на мінэральных глебах | 1 | 20 |
| *В. Сувораў*. Культура ячменю і яе значэньне ў БССР | | 56 |
| *С. Бураў і К. Яцына*. Хваробы бульбы | | 20 |
| *С. Кудзінаў*. Як арганізаваць колгас | | 05 |
| " Што даў колгас аднаасобнікам | | 10 |
| *Колгасцэнтр*. Прыкладны статут с.-г. арцелі | | 02 |
| *Н. Лапацін*. Вызначнік сартоў бульбы | 2 | 75 |
| *Г. Чуйко*. Вынікі масавых досьледаў з угнаеньнямі па БССР | | 85 |
| *Т. Дамінікоўскі*. Агранамічныя руды БССР як сродак хэмізацыі сельскай гаспадаркі | | 52 |
| *Б. Бойка*. Гаспадарчая характарыстыка севазваротаў БССР | | 40 |
| *А. Любошыц*. Вытворчасьць бульбянога крахмалу | | 70 |
| *П. Заяц*. Ачышчэньне зерня—шлях да павялічэньня ўраджайнасьці | | 07 |
| *К. Іваноў*. Як трэба сеяць і садзіць лес | | 20 |
| *К. Вансецкі*. Электрычнасьць у сельскай гаспадарцы | | 65 |
| *Д. Карэльскіх*. Кіраўніцтва па трактару „Інтэрнацыяная“ | 1 | — |
| Статут паселішчнага с.-г. вытворча-жывёлагадоўчага т-ва | | 05 |
| *А. Дзямідовіч*. Сьмяцьцёвая расьліннасьць на нашых палёх і мэтоды барацьбы з ёю | | 25 |
| *Т. Бахцеяў*. Здабывайце торф на апал, падсьціл і ўгнаеньні | | |
| *Е. Аляксеяў*. Сэрадэля—трава на корм, угнаеньне і семя | | 22 |
| *М. Жарын*. Заразьлівыя хваробы жывёлы і грамадзкая барацьба з імі | | 30 |
| *В. Чэмелаў*. Гадоўля канюшыны на насеньне | | 15 |
| *М. Максімовіч*. Культура бульбы | | 50 |
| *Захарэнка*. Машына-трактарна-конныя станцыі ў БССР | | 07 |
| *Я. Струкоўскі*. Пчалярства (кн. II-я) | 1 | — |
| *В. Чэмелаў*. Гадоўля капусты ў полі | | 30 |
| *Красачкін*. Цыбуля і часнок | | 70 |
| *К. Лявіцкая*. Маліна | | 10 |
| *Н. Крупская*. Што казаў Ленін пра колгасы | | 15 |
| *Проф. В. Дактуроўскі*. Тарфяныя балоты іх утварэньні і разьвіцьцё | | 55 |
| *Купрыянец*. За вынаходніцтва, рацыяналізацыю і вопытніцтва ў сьвінагадоўлі | | 10 |
| *С. Журык*. Як выгадаваць добрых парасят | | 10 |

## Друкуюцца і хутка выйдуць з друку:

*Лазінскі і Саргалавец*. Аб рахункаводзтве ў колгасе
*Ф. Валынец*. Організацыя і праца вытворчых нарад у колгасе
*Уліцін*. У дапамогу колектывістаму
*Цэйтлін*. Організацыя гаспадаркі (малочна-ільняны колгас)
*Хаванская*. Утрыманьне і выкарыстаньне рабочага каня
*Хаванскі*. Кабыла і жарабё
*Проф. Пеліхаў*. Пабулова аборы для жывёлы
*Іваноў*. Асновы кармленьня с.-г жывёлы
*Галубчык*. Трусагадоўля
*Жарын*. Яшчур і барацьба з ім
*Александраў*. Шаленства ў жывёлы і чалавека і барацьба з ім
*Драздоў*. Культура канюшыны ў БССР
*Уліцін*. Новы спосаб захаваньня навозу
*Уліцін*. Бабовыя расьліны і іх значэньне
*Уліцін*. Штучныя ўгнаеньні
*Мітчэрліх*. Вызначэньне патрэбы глеб ва ўгнаеньнях
*Драздоў*. Культура жыта на пяскох
*Крэйдзін*. Стандартныя сарты пладавых дрэў
*Дарожкін*. Хваробы хлебных і кармовых расьлін і барацьба з імі
*Дарожкін*. Галаўня с.-г. расьлін
*Іваноў*. Значэньне лесу, яго жыцьцё, гадоўля
*Лазарэвіч*. Прамысловая падсочка сасны
*Іваноў*. Лясныя пажары і змаганьне з імі
*Тараймовіч*. Гідротэхніка рыбнае справы
*Крбазеў*. Торф як падсьцілка
*Глінка*. Глебы
*Мацярыкін*. Першапачатковая апрацоўка лёну
*Гуржы*. Натуральныя фруктовыя сокі
*Гарбуноў і Салдаценка*. Колгасныя рулявыя
Пралетарскія батальёны на колгаснай будоўлі

ЦАНА 15 кап.

# АДКРЫТА ПАДПІСКА на 1931 г. НА ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"

Орган Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР

## У 1931 г. ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ" БУДЗЕ РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

Часопіс асьвятляе пытаньні калектывізацыі, сельскай гаспадаркі, шырока асьвятляе жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў.

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінна мець часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць часопіс „Шляхі калектывізацыі".

## ПАДПІСНАЯ ПЛАТА на 1931 г.

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год | 3 руб. | |
| „ 6 мес. | 1 „ | 50 кап. |
| „ 3 „ | | 75 „ |
| „ 1 „ | | 25 „ |

24 НУМАРЫ ЧАСОПІСУ Ў ГОД

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА

На кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў выдавецтве „Беларуская Вёска"

АДРАС РЭДАКЦЫІ ЧАСОПІСУ

г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.



Друкарня імя Сталіна. Заказ № 57. 5.000 экз. Галоўлітбел № 42.